*Выходзіць з 20 снежня 1945 года*

# НАСТАЎНІЦКАЯ газета

№ 11 (5342)
Чацвер, 31 студзеня 2002 года

ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Містэр ДОРЭНБОШ, прадстаўнік Еўрапейскай асацыяцыі школ:**

## "Што б ты ні рабіў, імкніся рабіць гэта добра"

***У рэспубліканскім семінары, на якім абмяркоўваліся праблемы экалагічнага выхавання і фарміравання здаровага ладу жыцця, у якасці ганаровага госця прымаў удзел містэр Дорэнбош, прадстаўнік Еўрапейскай асацыяцыі школ. Ён ахвотна пагадзіўся адказаць на пытанні нашага карэспандэнта.***

**- Містэр Дорэнбош, напэўна, не толькі я, але і ўсе ўдзельнікі семінара звярнулі ўвагу на вашу зацікаўленасць у абмеркаванні праблем нашай адукацыі і імкненне выказаць наконт іх свае думкі...**

– Так, я задаволены тым, што мне давялося ўдзельнічаць у рабоце семінара разам з кіраўнікамі школ вашай краіны. Гэта яшчэ адна магчымасць мне, як прадстаўніку Еўрапейскай асацыяцыі школ, больш глыбока пазнаёміцца з адукацыяй Беларусі. Я бачыў, як развіваецца мысленне дырэктараў школ, спецыялістаў адукацыі, падчас абмеркавання, як многа сапраўдных прафесіяналаў, зацікаўленых у паляпшэнні сваіх спраў, якія слушныя прапановы былі выказаны.

Асноўная мэта майго візіту ў вашу краіну – пазнаёміцца з работай кіраўнікоў сярэдніх навучальных устаноў. Таму ўдзел у семінары, стасункі з дырэктарамі школ і спецыялістамі адукацыі як мага лепш спрыялі гэтаму.

Папярэджваючы ваша пытанне, магу адразу патлумачыць, чым адрозніваецца дырэктар беларускай школы ад дырэктара школы ў Галандыі.

– Дырэктар школы ў Галандыі – гэта сапраўдны бос, ён адказны за ўсё: за памяшканне, за змест адукацыі, за ўвесь штат работнікаў і за вынікі працы педагогаў. У нас, безумоўна, няма такога вялікага кантролю за дзейнасцю школы. Інспектар наведвае яе не больш чым два разы на год. На працягу маёй дваццаціпяцігадовай працы на пасадзе дырэктара былі перыяды, калі я ўвогуле не бачыў ніводнага інспектара ў сваёй школе.

Што абавязкова і своечасова трэба зрабіць дырэктару – гэта адправіць у інспекцыю справаздачу аб працы школы і яе выніках. І калі вынікі добрыя – значыць усё ў парадку. Інспектары ў нас – своеасаблівыя суддзі: яны прыходзяць і глядзяць, ці ўсё ты робіш па закону (не ўнікаючы ў працу настаўнікаў, гэта прывілея дырэктара). Часам яны могуць запытаць пра метады дзейнасці і ці ўсё мы арганізавалі так, каб атрымаць аптымальны вынік.

У нас таксама ёсць у Міністэрстве адукацыі спецыяліст, які курыруе сярэднія навучальныя ўстановы. Напрыклад, наша асацыяцыя дырэктараў школ практычна кожны месяц сустракаецца з такім спецыялістам ці з адпаведным падраздзяленнем. І калі Міністэрства адукацыі выношвае якія-небудзь планы, яно ў першую чаргу абмяркоўвае іх з нашай асацыяцыяй. І менавіта з намі яны вырашаюць пытанне, наколькі гэтае новаўвядзенне практычнае і неабходнае для ўкаранення ў практыку работы школ. А потым, атрымаўшы канкрэтныя прапановы, спецыялісты міністэрства могуць іх мадыфікаваць. Так, па сутнасці, і павінна быць у адукацыі.

**- У вашай адукацыі час ад часу праводзяцца рэформы - структурныя змяненні і абнаўленне зместу навучання?**

– За ўсю маю педагагічную дзейнасць было праведзена чатыры ці пяць такіх рэформ. У Галандыі настаўнікі таксама скардзяцца: "Пакіньце нас у спакоі, дайце нам больш свабоднага часу". Але тым не менш у нас – традыцыйная, кансерватыўная адукацыя. Ёсць дзяржаўныя стандарты і праграмы, таму што на "выхадзе" са школы выпускнікі павінны здаваць дзяржаўныя экзамены, а без належнай якасці ведаў іспыты не вытрымаеш.

Дзесьці 15 гадоў таму ў нас таксама вырашалася праблема, як перайсці на пяцідзёнку. І шмат людзей было супраць гэтага. Але калі цяпер вы скажаце вучням і настаўнікам што яны абавязаны прыходзіць працаваць у школу ў суботу, напэўна, здарыцца сапраўдная рэвалюцыя. Настолькі ўсе прывыклі да пяцідзёнкі ў навучанні.

**- Галандская школа ў пэўнай ступені адказвае за выхаванне сваіх вучняў?**

– Вельмі цікавае пытанне, дзякую за яго. Калі дзіця знаходзіцца ў школе, яна, безумоўна, нясе адказнасць за яго. Аднак як толькі вучань пакідае сцены ўстановы, за яго выхаванне нясуць адказнасць бацькі. Галоўная адказнасць за выхаванне дзяцей ускладзена на сям'ю, а потым ужо на школу. У нас не можа быць інакш.

Я, напрыклад, ніяк не магу зразумець, як школа ці яе дырэктар могуць несці адказнасць за паводзіны вучня ў нядзелю.

**- Містэр Дорэнбош, ці працуюць у вашай школе такія спецыялісты, як псіхолагі, сацыяльныя педагогі, класныя кіраўнікі?**

– Класныя кіраўнікі ёсць, а вось іншых спецыялістаў мала. Мне падабаецца, што ў вас у школах больш розных педагагічных работнікаў.

Калі ў нашага вучня ўзнікаюць праблемы, ён можа звярнуцца да саветніка. І саветнік пачынае ўступаць у кантакты з усімі неабходнымі яму для вырашэння праблемы структурамі. Школа мае такую сацыяльную каманду, у якую ўваходзяць саветнік, адзін ці два класныя кіраўнікі і яшчэ спецыялісты, якім падабаецца гэтая работа, усяго чатыры ці пяць чалавек.

**- У вас працяглая па часу і багатая на падзеі педагагічная дзейнасць. Якія жыццёвыя і прафесійныя каштоўнасці вы цэніце і ці ўдалося вам рэалізаваць сябе ў працы?**

– Я не думаю, што ўсе могуць быць задаволены тым, чаго дасягнулі ў жыцці. Калі мне было 18 гадоў, я пачаў глыбока вывучаць родную мову (дацкую), таму што мне падабалася лінгвістыка.

І адзінае, дзе я мог прымяніць свае веды – гэта ў навучанні дзяцей. Мне падабалася вучыць, але я зразумеў, што ў арганізацыйных пытаннях магу зрабіць больш, і што, наогул існуюць два напрамкі ў адукацыі, якія мне даспадобы – работа з дзецьмі ў школьным тэатры і кіраванне школай. Таму я стаў працаваць дырэктарам. Самае галоўнае маё правіла – "што б ты ні рабіў, імкніся рабіць гэта добра".

Магчыма, я цяпер шмат чаго зрабіў бы па-іншаму. Але ўвогуле я магу сказаць, што працаваў добра: з дзецьмі, людзьмі, апошнім часам – у наладжванні міжнародных кантактаў.

**- Містэр Дорэнбош, вы напэўна, ужо выгадавалі сваіх дзяцей. Ці задаволены іхняй адукацыяй?**

– Мы разам з жонкай выгадавалі дзвюх дачок і двух сыноў. Старэйшая дачка – урач, другая – вывучала мастацтва. Магчыма, яна будзе выкладчыкам, але пакуль не працуе па сваёй спецыяльнасці: вырашыла набыць другую прафесію – псіхолага. Адзін сын – эканаміст, другі займаецца інфарматыкай. Усе дзеці маюць вышэйшую адукацыю. Жонка была настаўніцай, але ў нашай краіне мая заработная плата дазваляла ёй не працаваць, а займацца выхаваннем чатырох дзяцей.

І цяпер яна не працуе па спецыяльнасці, затое займаецца ёгай, работай з пажылымі людзьмі.

**- Зусім выпадкова я даведалася, што ў мінулым годзе вы здзейснілі сваю даўнюю мару - пешшу прайшлі з Галандыі ў Іспанію...**

– Гэта занадта доўгая гісторыя. 15 гадоў таму назад такая думка ўпершыню прыйшла мне ў галаву. З літаратуры я даведаўся, што першая жанчына-пілігрым прайшла шлях з Францыі ў Іспанію да аднаго святога мястэчка пешшу яшчэ ў 908 годзе. З тых часоў мільёны пілігрымаў здзейснілі такія вандроўкі – гэта адна са старэйшых традыцый хрысціянства. Я сказаў сам сабе: "Пайду". І цэлы год разам з жонкай рыхтаваўся да такой незвычайнай вандроўкі. Першага ліпеня мінулага года, у дзень, калі я выйшаў на пенсію, мы з жонкай адправіліся ў гэтую вандроўку. З Галандыі мы рушылі праз Бельгію і Францыю ў Іспанію. За чатыры месяцы і 8 дзён пешшу пераадолелі прыкладна 2 тысячы 800 кіламетраў. Рэпартаж аб нашай вандроўцы ёсць у Інтэрнеце.

**- Дзякую за цікавую размову, містэр Дорэнбош, спадзяюся, яна спадабаецца нашым чытачам.**

**Ірына КУЛІКОЎСКІХ.**

НА ЗДЫМКУ: містэр Дорэнбош.

**Фота Юрыя БОНДАРАВА.**

## Калегія абмяркуе вынікі дзейнасці і надзённасці адукацыі

***Сёння адбудзецца пасяджэнне калегіі Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь, на парадак дня якога вынесена абмеркаванне вынікаў работы міністэрства за 2001 год. У дакладзе Міністра адукацыі прафесара Пятра Брыгадзіна будзе дадзены аналіз дзейнасці міністэрства за мінулы год і вызначаны прыярытэты на бягучы.***

Летась міністэрствам, органамі кіравання і ўстановамі адукацыі ажыццяўлялася работа па забеспячэнні стабільнага функцыянавання і развіцця сістэмы адукацыі. Намаганні былі накіраваны галоўным чынам на рэалізацыю асноўных напрамкаў развіцця нацыянальнай сістэмы адукацыі, вырашэнне задач рэфармавання агульнаадукацыйнай школы, стандартызацыі, удасканалення зместу, навукова-метадычнага забеспячэння, форм і метадаў кіраўніцкай дзейнасці, захавання і ўдасканалення сеткі адукацыйных устаноў, развіцця матэрыяльна-тэхнічнай базы, сацыяльнай абароны работнікаў галіны.

Сваім дакладам Пётр Брыгадзін намераны задаць тон для канструктыўнага абмеркавання найбольш вострых адукацыйных праблем.

Не дасягнуты запланаваныя вынікі ўдасканалення зместу школьнага навучання. Час, які застаўся да масавага пераходу базавай школы на новыя вучэбныя планы, трэба з максімальнай эфектыўнасцю выкарыстаць для пазбаўлення ад недахопаў, выяўленых у ходзе эксперыментальнай работы. Неабходна забяспечыць распрацоўку зместу адукацыі старшай ступені 12-гадовай школы, павысіць якасць вучэбнай і вучэбна-метадычнай літаратуры.

Патрабуюць уважлівага разгляду пытанні, звязаныя са структурай і аб'ёмамі падрыхтоўкі кадраў для народнай гаспадаркі краіны, у тым ліку для рэфармуемай сельскай гаспадаркі. Неабходна мэтанакіравана працягваць работу па стварэнні гнуткай, эфектыўнай сістэмы падрыхтоўкі спецыялістаў усіх узроўняў кваліфікацыі, улічваючы патрабаванні рынку працы.

Навука ў ВНУ не заўсёды скіравана на распрацоўку новых тэхналогій, пошук аптымальных навуковых рашэнняў, стварэнне канкурэнтаздольнай, навукаёмістай прадукцыі. Аператыўнае ўкараненне вынікаў навуковых распрацовак вышэйшых навучальных устаноў у вытворчасці вымагае развіцця інфраструктуры навукова-інавацыйнай дзейнасці.

У бягучым годзе намаганні кіруючых органаў сістэмы адукацыі павінны быць накіраваны на выкананне даручэнняў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А.Р.Лукашэнкі, Асноўных параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця на 2001-2005 гг. Пры гэтым прыярытэтнай задачай павінна стаць павышэнне якасці навучання. Неабходна пашырыць даступнасць дашкольнай адукацыі, стварыць умовы для поўнага ахопу дашкольнай адукацыяй дзяцей з 5 гадоў, забяспечыць пераход на пяцідзённы навучальны тыдзень, удасканаліць структуру прафесійнай адукацыі, перайсці на двухступеньчатую сістэму вышэйшай адукацыі.

Галоўным напрамкам удасканалення выхаваўчай работы павінна стаць аб'яднанне намаганняў усіх узроўняў улады, навучальных устаноў, сацыяльна-выхаваўчых інстытутаў грамадства ў справе патрыятычнага выхавання моладзі на глебе дзяржаўнай ідэалогіі, стала пільнай патрэбай узмацненне ўзаемадзеяння адукацыйных інстытутаў з сям'ёй.

Якасць адукацыі непарыўна звязана з умацаваннем здароўя дзяцей. Неабходна прыняць меры па ліквідацыі празмерных нагрузак, увесці жорсткія нарматывы аб'ёму вучэбных заданняў, правесці экспертызу вучэбных планаў і падручнікаў для ўсіх ступеняў школы.

На калегіі мяркуецца абмеркаваць таксама пытанні ўдасканалення кадравай палітыкі і кіравання сістэмай адукацыі.

**Прэс-цэнтр Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь Віктар ІЎЧАНКАЎ.**

## Вылучаны на саісканне Дзяржаўнай прэміі

***Калегія Міністэрства адукацыі вылучыла чатыры работы на саісканне Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь у галіне навукі і тэхнікі па раздзелу "За падручнікі і вучэбныя дапаможнікі для вышэйшых навучальных устаноў".***

"Камплект падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў і сістэмы перападрыхтоўкі кадраў машынабудаўнічага профілю па тэхналогіі машынабудавання і сродках тэхналагічнага аснашчэння" – работа з'яўляецца вынікам вытворча-тэхнічнай, навукова-даследчай і вучэбна-педагагічнай дзейнасці прафесараў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі В.М.Кавалеўскага і А.С.Камарова, Віцебскага дзяржаўнага тэхналагічнага ўніверсітэта Я.І.Махарынскага і Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта інфарматыкі і радыёэлектронікі В.А.Гарохава з 1985 па 2001 гг.

Вучэбныя выданні вызначаюцца сістэмнасцю і комплекснасцю, даступным і добра ілюстраваным выкладаннем матэрыялу з улікам бесперапыннасці адукацыі. Ён дазваляе навучыць спецыялістаў у галіне машынабудавання і сродкаў тэхналагічнага аснашчэння, забяспечыўшы сацыяльна-тэхналагічную, навукова-даследчую, праектна-тэарэтычную і канструктарскую падрыхтоўку будучых прафесіяналаў.

Яшчэ адзін саіскальнік – "Камплект падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па курсах "Дэталі машын", "Прыкладная механіка", "Асновы канструявання" прафесараў Беларускай дзяржаўнай політэхнічнай акадэміі А.Т.Скойбеды і А.В.Кузьміна. Ён складаецца з аднаго падручніка, двух вучэбных дапаможнікаў, сямі даведачных дапаможнікаў, сямі манаграфій, дзвюх Тыпавых вучэбных праграм і дванаццаці вучэбна-метадычных дапаможнікаў і распрацовак.

Асаблівасцю камплекта з'яўляецца выкарыстанне прынцыпу бесперапыннасці падрыхтоўкі студэнтаў да канструктарскай дзейнасці па дысцыплінах кафедры дэталяў машын.

Калегія таксама вылучыла на саісканне і "Камплект вучэбных дапаможнікаў па эканамічнай сацыялогіі (Падручнік. Практыкум. Хрэстаматыя)" аўтараў Г.М.Сакаловай, А.В.Кабяка, А.Б.Аляксандравай і "Комплекс вучэбнай літаратуры па аграхіміі для вышэйшых і сярэдніх спецыяльных сельскагаспадарчых навучальных устаноў" прафесараў Беларускай сельскагаспадарчай акадэміі І.Р.Вільдфлуша, А.Р.Цыганова, дацэнта С.П.Кукрэша, дырэктара Інстытута глебазнаўства і аграхіміі І.М.Багдзевіча, намесніка дырэктара гэтага інстытута прафесара В.В.Лапа, былога дацэнта кафедры аграхіміі БСГА В.А.Іонаса.

**Адам МАРКЕВІЧ.**

Юбілей

## Золак беларускай навукі

***80 гадоў назад пачалася дзейнасць Інстытута беларускай культуры - першай навуковай установы БССР, папярэдніка Акадэміі навук Беларусі.***

Інбелкульт праіснаваў усяго сем без малога гадоў. Афіцыйны дзень ягонага нараджэння – 30 студзеня 1922 года, дата першага агульнага сходу супрацоўнікаў Інбелкульта, на якім было прынята рашэнне аб утварэнні этнографа-лінгвістычнай і прыродазнаўчай секцый. Афіцыйны дзень ягонай "рэінкарнацыі" – 13 кастрычніка 1928 года, дата пастановы ЦВК і СНК БССР "Аб рэарганізацыі Інстытута беларускай культуры ў Беларускую Акадэмію навук". Паміж гэтымі дзвюма датамі: безупынная самаадданая праца лепшых на той час беларускіх вучоных і дзеячаў культуры, сотні навуковых канферэнцый і экспедыцый, тысячы тэарэтычных распрацовак і прыкладных даследаванняў – золак беларускай навукі.

Сёння мы з удзячнасцю ўспамінаем тых, хто стаяў ля вытокаў гэтай легендарнай навуковай установы: пісьменнікаў І.Д.Луцэвіча (Янку Купалу), К.М.Міцкевіча (Якуба Коласа), М.І.Гарэцага, З.Ф.Жылуновіча (Цішку Гартнага), гісторыкаў У.М.Ігнатоўскага і У.І.Пічэту, мовазнаўцаў П.А.Бузука, Я.Ю.Лёсіка, С.М.Некрашэвіча, літаратуразнаўцаў І.І.Замоціна, М.М.Піятуховіча, фалькларыстаў і этнографаў І.А.Сербава, А.А.Шлюбскага, мастацтвазнаўцаў Я.Л.Дылу, М.М.Шчакаціхіна, юрыстаў М.Гуткоўскага, Г.Я.Парэчына, заолага А.В.Фядзюшына, батаніка Ц.М.Годнева, медыкаў А.К.Ленца і І.Т.Цітова, географаў-эканамістаў Г.І.Гарэцкага і А.А.Смоліча, глебазнаўцу Я.М.Афанасьева.

Цяжка нават уявіць, колькі зроблена было за няпоўныя сем гадоў імі, пачынальнікамі самых розных напрамкаў айчыннай навукі, тытанамі нацыянальнага адраджэння, духоўнымі бацькамі нацыі. Можна толькі здзіўляцца і канстатаваць: вучоныя-мовазнаўцы распрацавалі навуковую тэрміналогію для асобных галін ведаў і выдалі 19 тэрміналагічных зборнікаў, стварылі тэрміналагічны атлас гаворак Беларусі. Лтаратуразнаўцы падрыхтавалі да друку акадэмічныя выданні збораў твораў беларускіх паэтаў і празаікаў; этнографы сабралі каля 30 тысяч тэкстаў песень, казак, прыказак, выдалі альбом беларускага арнаменту і апісанне беларускага нацыянальнага адзення; гісторыкі распачалі выданне архіўных матэрыялаў і вывучэнне рэвалюцыйнага руху на Беларусі; філосафы ўзяліся за актуальныя на той час даследаванні па дыялектычным і гістарычным матэрыялізме; геолагі выявілі радовішчы карысных выкапняў, якія па сваёй якасці і тэхніка-эканамічных умовах эксплуатацыі маглі быць сыравіннай базай для развіцця шкляной, цэментнай і керамічнай галін прамысловасці; глебазнаўцы склалі глебавыя карты большай часткі акруг рэспублікі, якія шырока выкарыстоўваліся пры аказанні агранамічнай дапамогі, землеўпарадкаванні і меліярацыі; хімікі стварылі Цэнтральную хімічную лабараторыю і арганізавалі кафедру хімічнай тэхналогіі і г.д., і г.д. І ўсё гэта – пачынаючы літаральна з нуля, у знявечанай рэвалюцыямі і войнамі краіне...

Можна, зрэшты, і паплакаць – па тым, што маглі б яшчэ зрабіць для Беларусі інбелкультаўцы, калі б не трагічны паварот гісторыі ў канцы 1920-х. Прыгадаем: з 15 правадзейных членаў Інбелкульта, выбраных у адпаведнасці са статутам 1927 года, 9 былі рэпрэсіраваны ў 30-я гады (Я.М.Афанасьеў, М.М.Дурнаво, З.Ф.Жылуновіч, І.І.Замоцін, В.У.Ластоўскі, Я.Ю.Лёсік, С.Ю.Матулайціс, С.М.Некрашэвіч, А.А.Смоліч, падвяргаўся арыштам і У.І.Пічэта). А наогул са 104 штатных супрацоўнікаў Інбелкульта, якія працавалі ў ім у канцы 1928 года, у 30-я гады было рэпрэсіравана 48 чалавек. Горкія, страшныя лічбы, на якія мы не можам забывацца нават і падчас юбілею...

І ўсё ж, юбілей. Інбелкульту – восемдзесят. У дзённым дабратворным святле сённяшняй беларускай навукі праменіцца ейны золак.

**Мікола ЧЭМЕР.**

**Министерство образования Республики Беларусь, Белорусский государственный университет**

## Седьмая республиканская конференция школьников

*(конкурс исследовательских работ)*

**по математике, информатике, физике, экологии, химии и биологии**

## *Конкурс БелЮниор-2002*

Организационный комитет Седьмой республиканской конференции школьников (конкурса исследовательских работ) и конкурса БелЮниор-2002 приглашает желающих принять участие в работе конференции, которая состоится **11-13 марта** 2002 года в Минске. На конференции будут работать секции по математике, информатике, физике, экологии, химии и биологии. По сложившейся многолетней традиции победители конференции в секциях информатика, математика, физика и экология смогут принять участие в Международных конференциях юных ученых.

Обращаем внимание будущих участников на то, что третий год подряд вместе с Республиканской конференцией будет проводиться конкурс БелЮниор, который является одним из 500 региональных конкурсов Всемирного смотра научного и инженерного творчества учащихся (Intel International Science and Engineering Fair, сокращенно – Intel ISEF). Школьники из Беларуси своими талантливыми работами привлекли внимание организаторов Intel ISEF. Благодаря спонсорской поддержке представительства корпорации Intel в странах СНГ и Балтии в 2000 и 2001 годах авторы лучших работ по математике и информатике, физике и астрономии получили возможность представить свои результаты на финальном смотре в США. Этот смотр ежегодно собирает более 1200 участников из 48 штатов США и 40 стран мира, представляющих свои работы по 15 научным направлениям. Наши ребята показали прекрасные результаты: завоевали третье место в секции математики среди индивидуальных и командных проектов, одна из работ получила приз от астрономического фонда США. В этом году Региональные конкурсы Intel ISEF будут проходить также в России, Украине, Казахстане. Дополнительную информацию по проведению Intel ISEF и Российского конкурса "Юниор" можно найти по адресам: http://www.sciserv.org/isef и http://www.intel.ru/education/junior.

Заявку на участие в Седьмой республиканской конференции школьников и конкурсе БелЮниор-2002 необходимо не позднее **20 февраля** 2002 года отправить в адрес Оргкомитета. В качестве заявки принимаются результаты вашей работы, оформленные в произвольной форме, но отражающие наиболее полным образом цели исследований, полученные результаты, идеи и методы доказательств, постановки экспериментов и т.п. (объем материалов до 5 страниц). В материалах должны быть **обязательно указаны название доклада, фамилии и имена авторов (фамилию докладчика подчеркнуть), номер, точный почтовый адрес с индексом и телефон школы, класс, в котором они учатся** (дополнительно укажите домашний адрес и телефон, а также фамилию, имя и отчество руководителя, его должность, место работы и телефон).

***Отбор докладов для участия в конференции-конкурсе будет проводиться по вашим материалам. Обращаем внимание, что в связи с тем, что в последние годы резко увеличилось число работ, присылаемых в оргкомитет конференции и конкурса, реферативные, обзорные и небрежно оформленные работы рассматриваться не будут. Заявки, высланные позже указанного срока, рассматриваться не будут.***

***Конференцию планируется провести на базе политехнической гимназии Минска. Адрес гимназии и распорядок работы будет указан в приглашениях, которые будут высылаться в районные или городские отделы образования или в учебные заведения по указанным в заявках адресам.***

Проживание и питание приглашенных участников в ходе конференции будет организовано за счет Министерства образования, проезд к месту конференции и обратно – за счет командирующей организации.

Ждем ваши заявки.

**Заявки на доклады в секции информатики и математики присылать по адресу:**

Задворному Б.В., факультет прикладной математики и информатики, Белгосуниверситет, пр.Скорины, 4, Минск, 220050. Тел. служ. (017) 209-50-65, адрес электронной почты: zadvorny@bsu.by

**Заявки на доклады в секцию физики присылать по адресу:**

Жилко В.В., физический факультет, Белгосуниверситет, пр.Скорины, 4, Минск, 220050. Тел. служ. (017) 209-51-14.

**Заявки на доклады в секцию экологии присылать по адресу:**

Тимощенко А.И., Международный институт по радиоэкологии, ул. Долгобродская, 23, Минск, 220009. Тел. служ. (017) 230-58-50, 238-41-35, адрес электронной почты tim@isir.minsk.by

**Заявки на доклады в секцию химии присылать по адресу:**

Хвалюк В.Н., химический факультет, Белгосуниверситет, пр.Скорины, 4, Минск, 220050. Тел. служ. (017) 206-64-01.

**Заявки на доклады в секцию биологии присылать по адресу:**

Гричик В.В., биологический факультет, Белгосуниверситет, пр.Скорины, 4, Минск, 220050. Тел. служ. (017) 277-59-36.

Уточнить информацию можно у Натальи Филипповны Горовой (Министерство образования) по телефону (017) 220-98-39.

Обращаем внимание, что судьба ваших работ – теоретических исследований, экспериментов и т.п. – на этом может не закончиться. Мы приглашаем всех желающих (и не только будущих участников конференции) принять участие в заочном конкурсе исследовательских работ учащихся (см. ниже). Отметим, что оргкомитеты конференции и конкурса предполагают пригласить наиболее активных участников этих мероприятий (по предметам математика и физика) в августе 2002 года на Восьмую республиканскую летнюю научно-исследовательскую школу учащихся и учителей в п. Лужесно Витебской области.

### Республиканский заочный конкурс исследовательских работ учащихся

1. Участником конкурса может быть любой учащийся (группа учащихся) средней школы или другого среднего учебного заведения (допускается участие своего учителя или другого преподавателя как руководителя-консультанта исследовательской работы).

2. Каждый участник может проводить исследование по любой выбранной им самостоятельно или с помощью руководителя теме (задаче, проблеме).

*Примечание.* Конкурс проводится независимо от республиканской конференции школьников, которая состоится **11-13 марта** 2002 г. В частности, вы можете участвовать в конференции с докладом по теме, которую предполагаете потом прислать на конкурс в доработанном или переработанном виде.

3. Оцениваться будут в равной степени:

* элегантность изложения и четкость обоснований и доказательств (просим, в частности, отдельно конкретно сформулировать основные цели Вашего исследования и полученные Вами результаты);

* практическая и теоретическая ценность, которая может заключаться не только в количестве результатов, но и, возможно, в новом подходе к решению задачи, оригинальной методике, неожиданной и красивой постановке эксперимента и т.п.;

* оригинальность результатов.

**4. Последний срок отправки ваших материалов - 15 апреля 2002 г.** *(адрес оргкомитета см. ниже)*. **Подведение итогов - апрель-май 2002г.**

5. Победителей ждут:

а) дипломы и призы оргкомитета;

б) **приглашение на Восьмую республиканскую летнюю научно-исследовательскую школу учащихся и учителей в августе 2002 г.** (по предметам математика и физика).

*Примечание.* Кроме этого, каждому участнику конкурса будет выслана рецензия его работы с оценкой результатов, комментариями, советами по продолжению исследования (с указанием возможных новых направлений, интересных случаев, нетривиальных приложений и пр.).

6. Адрес оргкомитета, на который необходимо выслать свою работу и где вы можете получить любую необходимую справочную информацию:

***Факультет прикладной математики и информатики, Белгосуниверситет; пр. Скорины, 4; г. Минск, 220050; Задворному Б.В. Тел. : (017) 209-50-65, факс: (017) 226-55-48 (с пометкой: для Задворного Б.В.), e-mail:*** zadvorny@bsu.by

# Стадыён

*Фізкультурна-спартыўны выпуск “НГ”*

# Дзе ж падзеліся спартсмены?

## Колькасць іх за апошнія пяць гадоў у сістэме адукацыі знізілася амаль у два разы

***Якімі яны будуць у будучым, нашы дзеці? Здаровымі духам і целам людзьмі? Адказ на пытанне амаль цалкам залежыць ад нас саміх. Час не толькі зразумець гэта, але і рабіць пэўныя крокі на шляху да пастаўленай мэты, чым ужо шмат гадоў займаецца Рэспубліканскі цэнтр фізічнага выхавання і спорту навучэнцаў і студэнтаў. Аб гэтым - наша размова з дырэктарам цэнтра Анатолем Васільевічам ГАРДУСЕНКА.***

**- Анатоль Васільевіч, ваш цэнтр існуе ўжо амаль што дзесяць гадоў. У святле сённяшняй сітуацыі, калі фізкультуры і спорту надаецца асаблівая ўвага, якія функцыі на ваш цэнтр ускладаюцца?**

– Мы вызначаем прыярытэтныя напрамкі ў развіцці і ўдасканаленні працэсу фізічнага выхавання дашкольнікаў, навучэнцаў і студэнтаў, забяспечваем кіраванне і кантроль як адносна вучэбна-выхаваўчага працэсу, так і адносна фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай работы ва ўстановах адукацыі, праводзім разам з зацікаўленымі ўстановамі навукова-педагагічныя эксперыменты ў галіне фізкультуры і спорту.

У нашай кампетэнцыі знаходзіцца каардынацыя дзейнасці абласных, мінскіх цэнтраў фізвыхавання і спорту, арганізацыя і правядзенне рэспубліканскіх семінараў, канферэнцый, пасяджэнняў, конкурсаў па фізкультурна-аздараўленчай і спартыўна-масавай дзейнасці.

Акрамя таго, мы займаемся выяўленнем, абагульненнем і распаўсюджаннем перадавога вопыту ў наладжванні ўрочных, пазакласных і пазашкольных форм фізкультурных і спартыўных заняткаў, укараненнем у педагагічную практыку ўстаноў адукацыі вынікаў навуковых даследаванняў, перадавых метадаў і тэхналогій фізічнага выхавання.

Вялікая ўвага надаецца ўмацаванню здароўя дзяцей і моладзі, фарміраванню ў іх здаровага ладу жыцця, усебаковаму і гарманічнаму развіццю фізічных якасцей, павышэнню творчай і працоўнай актыўнасці. Асабліва нас хвалюе прафілактыка дрэнных звычак сярод непаўналетніх.

Немалаважнай з'яўляецца арганізацыя аздараўлення і адпачынку дзяцей і моладзі, а таксама правядзенне рэспубліканскіх спартакіяд, спаборніцтваў і спартыўна-аздараўленчых мерапрыемстваў з навучэнцамі.

**- Вядома, што час не стаіць на месцы, ён заўсёды патрабуе вырашэння асабліва актуальных пытанняў. Якія з іх сталі для вас першапачатковымі, на што плануецца звярнуць увагу ў гэтым годзе?**

– Паколькі год толькі яшчэ пачаўся, то, канешне, першапачатковая задача – працяг выканання Дзяржаўнай праграмы развіцця фізічнай культуры, спорту і турызму ў Рэспубліцы Беларусь. Звернемся таксама да распрацоўкі і ўкаранення новых вучэбна-выхаваўчых і трэніровачных праграм аздараўлення моладзі, да ўдасканалення сістэмы навукова-метадычнага і інфармацыйнага забеспячэння дашкольных устаноў, навучальных устаноў, дзіцячых і юнацкіх спартыўных баз, да каардынацыі работы па падрыхтоўцы, перападрыхтоўцы і павышэнню кваліфікацыі спецыялістаў па фізкультуры і спорту, да пашырэння міжнародных сувязей у сферы фізічнай культуры.

Ну і, вядома, мы імкнемся дапамагаць у падрыхтоўцы вядучых спартсменаў да ўдзелу ў рэспубліканскіх спаборніцтвах, чэмпіянатах і першынствах Еўропы, свету, на сусветных Універсіядах.

**- Планы - гэта заўсёды нешта са сферы віртуальных праектаў, а ў жыцці, на жаль, не абыходзіцца без праблем...**

– Праблемы ў нас тыя ж, што і ва ўсёй сістэме адукацыі нашай краіны – матэрыяльныя. Не хапае спартыўнага інвентару, памяшканняў. Яшчэ сустракаюцца вясковыя школы, якія не маюць сваёй спартыўнай залы, а ў школе, напрыклад, сто дваццаць вучняў. Настаўніку даводзіцца займацца з дзецьмі на вуліцы. У гарадскіх школах ёсць залы, але вучняў – па паўтары-дзве тысячы, і намеснік дырэктара плануе расклад так, што ў спартзале адначасова займаюцца два, а то і тры-чатыры класы... Адзінае, што мы пакуль можам зрабіць у такой сітуацыі, гэта параіць арганізаваць урок фізкультуры на свежым паветры. Умовы ва ўсіх амаль роўныя, і я стаю на пазіцыях, што калі настаўнік хоць нешта робіць, каб палепшыць сітуацыю, яго нельга пакідаць без увагі і падзякі.

Праблема яшчэ і ў тым, што, нягледзячы на ўсю нашу працу, у рэспубліцы штогод і ўсюды назіраецца тэндэнцыя да зніжэння колькасці навучэнцаў, якія прымаюць удзел у фізкультурна-аздараўленчых і спартыўна-масавых мерапрыемствах у вольны ад вучобы час. У параўнанні з 1996 годам доля моладзі, якая займаецца ў спартыўных секцыях, гуртках і групах "Здароўя" і агульнай фізічнай падрыхтоўкі, знізілася ў школах з 15,8 працэнта да 8,8 працэнта, у ПТВ – з 24 працэнтаў да 13,9, у ССНУ – з 20,8 працэнта да 17 працэнтаў.

Але не ўсё так дрэнна, як здаецца, ёсць у нас і пэўныя дасягненні. Напрыклад, мы можам ганарыцца сваімі выдатнымі спартыўнымі базамі. Сярод іх – Лужаснянская школа-інтэрнат Віцебскага раёна, Цельская школа Асіповіцкага раёна Магілёўскай вобласці, Гарадзецкае ПТВ, сярэдняя школа №115 з фізкультурна-аздараўленчым ухілам горада Мінска і інш. І сярод настаўнікаў фізкультуры ёсць шмат энтузіястаў, з якімі можна плённа працаваць.

**- Дарэчы, наконт настаўнікаў фізкультуры. Кадравае пытанне, як мне здаецца, заўсёды актуальнае. Ці можна сказаць, што нашы навучальныя ўстановы забяспечаны спецыялістамі?**

– Як ні дзіўна, у горадзе Мінску недахопу ў настаўніках фізкультуры не адчуваецца. Тое ж можна сказаць і ў дачыненні да рэспублікі ў цэлым. Але, вядома, працуючы толькі ў школе – настаўнік не можа забяспечыць сваю сям'ю матэрыяльна. І таму мы шукаем новыя падыходы да вырашэння гэтай праблемы. Так, напрыклад, амаль у кожным раёне ёсць спартыўныя школы. Настаўнік мясцовай агульнаадукацыйнай школы, калі ён, канешне, не спецыяліст у пэўным відзе спорту, мае магчымасць весці агульнафізічную падрыхтоўку ў спецыялізаванай спартыўнай навучальнай установе. Акрамя таго, вельмі многія настаўнікі практыкуюць такія спосабы працы, як стварэнне на базе школы вучэбна-трэніровачных груп, секцый і г.д.

Перавагі ў такой арганізацыі дзейнасці відавочныя. Па-першае, фізічная культура і спорт папулярызуюцца і набываюць больш масавы характар; па-другое, паяўляецца яшчэ адна магчымасць знайсці сярод выхаванцаў "залацінку", і, па-трэцяе, як я ўжо казаў, паляпшаюцца матэрыяльныя ўмовы настаўнікаў.

У апошні час мы звяртаем асаблівую ўвагу на павышэнне кваліфікацыі нашых спецыялістаў. У гэтым кірунку працуюць Акадэмія паслядыпломнай адукацыі, а таксама Інстытут павышэння кваліфікацыі, створаны на базе Акадэміі фізічнага выхавання. Міністэрства адукацыі сумесна з Міністэрствам спорту і турызму і Інстытутам павышэння кваліфікацыі склалі план, згодна з якім арганізаваны курсы для настаўнікаў фізічнай культуры агульнаадукацыйных школ, трэнераў, спецыялістаў, якія працуюць у прафесійна-тэхнічных і вышэйшых навучальных установах, з мэтай павышэння ўзроўню іх прафесіяналізму.

Акрамя таго, у кожнай вобласці абавязкова праводзяцца тэматычныя семінары. Папярэдні адбыўся ў Міёрах.

**- А якія новыя метадычныя распрацоўкі, праграмы па фізічнай культуры з'явіліся ў апошні час? Магчыма, яшчэ нешта знаходзіцца ў рабоце?**

– Спецыялісты цэнтра сумесна з Нацыянальным інстытутам адукацыі ўдзельнічаюць у распрацоўцы і апрабацыі новых вучэбных праграм па фізічнай культуры для дванаццацігадовай школы. Таксама ствараюцца розныя вучэбныя і метадычныя дапаможнікі. Напрыклад, выдавецтва "Прагрэс" выпусціла ў 2001 годзе дапаможнік для настаўнікаў пад рэдакцыяй У.А.Баркова "Уроки физкультуры в школе". Зараз падрыхтаваны да выдання яшчэ два дапаможнікі. Апрабаваны і рэкамендаваны для ўкаранення розныя варыянты мабільнасці планавання ўрокаў фізкультуры ў вучэбна-выхаваўчым працэсе.

Карыстаюцца асаблівым попытам камп'ютэрныя праграмы для настаўнікаў фізкультуры і метадыстаў-арганізатараў фізкультурна-аздараўленчай работы. Аўтар-распрацоўшчык – настаўнік фізкультуры сярэдняй школы №10 горада Слуцка В.Л.Варанцоў.

Распрацаваны новыя Палажэнні аб заліках па фізічнай культуры для агульнаадукацыйных навучальных устаноў і Палажэнне аб экзаменах па фізічнай культуры для прафесійна-тэхнічных і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў.

Яшчэ адно нашае дасягненне – укараненне ў вучэбна-выхаваўчы працэс Праграмы пазакласнай фізкультурна-аздараўленчай работы. У першым квартале 2002 года будуць выдадзены метадычныя рэкамендацыі "Аб парадку арганізацыі і правядзення фізкультурна-аздараўленчых мерапрыемстваў у рэжыме вучэбнага дня".

Вучэбныя праграмы па фізічнай культуры цяпер сталі больш эфектыўныя дзякуючы ўвядзенню ў іх змест матэрыялу па турызму. Па турызму распрацаваны і выдадзены масавым тыражом вучэбна-метадычныя матэрыялы і дапаможнікі.

Паявіліся метадычныя рэкамендацыі па асаблівасцях фізічнай рэабілітацыі навучэнцаў з парушэннямі разумовага развіцця, а таксама эксперыментальная праграма па фізічнай рэабілітацыі для ПТВ

**- Анатоль Васільевіч, пакінем праблемы і працу крыху ў баку і пагаворым аб прыемным. Як вядома, зараз актыўна вядзецца падрыхтоўка да зімовых Алімпійскіх гульняў, якія ў хуткім часе пройдуць у Злучаных Штатах Амерыкі. Ці ёсць сярод будучых удзельнікаў вашы выхаванцы і які прагноз вы можаце даць наконт іх поспехаў?**

– З усёй каманды нашай краіны, а гэта шэсцьдзесят спартсменаў, дзесяць з'яўляюцца выхаванцамі спартыўных устаноў сістэмы адукацыі. У іншых даных называецца лічба дваццаць восем. І тут няма аб чым спрачацца, бо выхаванне спартсмена – вельмі часта працэс спантанны. Калі ў школьніка выяўлены спартыўны талент, яго перадаюць у вучылішча алімпійскага рэзерву або ў школу вышэйшага спартыўнага майстэрства і г.д. Ды і наогул, калі здольнасці відавочныя, дык кожны трэнер хоча "прыкласці да такога спартсмена сваю руку", гэта вельмі пачэсна.

А я магу ганарыцца выхаванцамі спартыўных школ сістэмы "Працоўныя рэзервы" – Дзмітрыем Дашчынскім, Аляксем Грышыным, Сяргеем Ракам. Цяпер гэта нашы найлепшыя майстры фрыстайла, і мы, безумоўна, чакаем ад іх медалёў.

**- Спадзяюся, што вашы надзеі спраўдзяцца. Дзякуй за размову.**

**Наталля АЛЁХІНА.**

# Абмеркавалі актуальныя праблемы

***У Міністэрстве спорту і турызму адбылася калегія, прысвечаная падвядзенню вынікаў работы ў мінулым годзе і вызначэнню задач на 2002 год.***

Як вядома, 2001 год быў абвешчаны годам здаровага ладу жыцця. У Рэспубліцы Беларусь праведзена 12 тысяч спартыўна-масавых мерапрыемстваў, у якіх удзельнічалі амаль 2 мільёны чалавек. Міністэрствам спорту і турызму сумесна з Міністэрствам адукацыі рэалізаваліся праграмы "Дзеці Беларусі" і "Алімпійскія надзеі Беларусі". Акрамя таго, з мэтай паляпшэння стану здароўя навучэнцаў і выяўлення пэўных спартыўных здольнасцей дзяцей на базе школ створаны 230 клубаў "Юны алімпіец". Значным дасягненнем можна лічыць павелічэнне штату фізкультурных работнікаў у дашкольных установах.

Але найбольшую зацікаўленасць у членаў калегіі, на наш погляд, выклікаў праблемны бок справы. На жаль, пакуль не назіраецца павелічэння колькасці навучэнцаў, якія бавяць свой вольны час у разнастайных спартыўных установах. Статыстыка сведчыць: на сённяшні дзень актыўна займаюцца фізічнай культурай і спортам толькі 20 працэнтаў дзяцей у горадзе Мінску і Магілёўскай вобласці, 25 працэнтаў – у Віцебскай і Гродзенскай абласцях, 28 працэнтаў – у Брэсцкай, 32 працэнта – у Гомельскай і Мінскай абласцях. Усё яшчэ недапрацаваным застаецца комплекс пытанняў па развіццю фізічнай культуры і спорту ў ВНУ краіны.

Адна з галоўных праблем, вызначаных на калегіі, – гэта падрыхтоўка спартыўнай базы да навучальнага года; звернута ўвага на паніжэнне яе матэрыяльнага забеспячэння. Нягледзячы на праведзеную работу, педагогі-практыкі скардзяцца на недахоп метадычных і вучэбных дапаможнікаў як для настаўнікаў, так і для вучняў. Акрамя таго, існуе патрэба ў больш дасканалай арганізацыі медыцынскага кантролю за здароўем навучэнцаў.

Прагучала думка і аб павышэнні патрабаванняў да якасці навучальнага працэсу ў навучальных установах.

**Наталля ІВАНОВА.**

Вопыт

# Модулі выкарыстоўваюцца ў эксперыменце

***Да сёння формула фізічнага выхавання была простай - "Бегай, скачы, і ты будзеш здаровы; чым вышэйшы спартыўны вынік, тым ты здаравейшы". Чамусьці пераважная большасць людзей успрымае словы "фізічная культура", "спорт","здароўе" як словы-сінонімы. Дзесяць гадоў працуючы па гэтай праблеме, вывучыўшы звыш 3000 літаратурных крыніц, я не знайшоў ніводнай работы, у якой было б паказана, што дзіця, якое падцягнулася на перакладзіне 10 разоў, мае больш высокі ўзровень здароўя ў параўнанні з тым, якое падцягваецца толькі 6 разоў.***

Сёння ніхто не сумняваецца, што фізічная культура – спецыфічная вучэбная дысцыпліна, якая адрозніваецца ад многіх іншых тым, што састаўной часткай яе з'яўляецца шэраг самастойных навуковых дысцыплін. Да іх адносяцца, напрыклад, медыцына, фізіялогія, біяхімія, псіхалогія і інш. Навуковыя даследаванні ў галіне сумежных дысцыплін мелі, як правіла, апісальны характар, які быў не заўсёды даступны настаўніку. Адсюль і вынікала іх незапатрабаванасць.

Улічваючы тое, што сёння найбольшую небяспеку для жыцця чалавека ўяўляюць сардэчна-сасудзістыя захворванні (яны ж з'яўляюцца і прычынай дачаснай непрацаздольнасці), мы распрацавалі модуль для рэгістрацыі і ацэнкі сардэчнай дзейнасці. Даныя аўтаматычна ўводзяцца ў камп'ютэр і могуць захоўвацца там працяглы час. Такі падыход дазваляе індывідуалізаваць вучэбны працэс, улічыць дынаміку фізічнага стану школьнікаў. Можна рэкамендаваць аптымальныя фізічныя нагрузкі для кожнага вучня ў залежнасці ад яго фізічнага стану.

Для практыкі важна не толькі канстатацыя факта, але і што трэба рабіць настаўніку для аднаўлення выяўленых адхіленняў ад нормы ў дзяцей розных узроставых груп.

Распрацоўваючы гадавы план, настаўнік яшчэ ў жніўні вызначае, што рабіць вучню і якую нагрузку ён будзе мець у лютым. Падобны традыцыйны падыход прыносіць школьніку больш шкоды, чым карысці. З другога боку, сёння пераважная большасць педагогаў працуе на 1,5 стаўкі. Ці можа настаўнік распрацаваць аргументаваныя канспекты ўрокаў для 6-8 класаў на кожны дзень? Ці можа ён у гэтых умовах вывучыць усе паказчыкі сваіх вучняў і ўдзяліць увагу кожнаму?

Я лічу, што фізічныя практыкаванні аздараўленчай накіраванасці можна разглядаць як медыкаментозныя сродкі толькі ў тым выпадку, калі вядома, як яны змяняюць фізіялагічныя паказчыкі, наколькі яны адпавядаюць фізічнаму стану вучня.

Для гэтага намі быў вывучаны ўплыў практыкаванняў у развіцці фізічных якасцей на асобныя фізіялагічныя паказчыкі арганізма асоб рознага полу і ўзросту. Дзякуючы распрацаванай праграме цяпер мы можам больш "асцярожна" ўздзейнічаць на органы і сістэмы, якія знаходзяцца на ўзроўні павышанай узбуджальнасці, і, наадварот, "ударна" ўздзейнічаць на тыя органы і сістэмы, якія "адстаюць" па паказчыках.

Праграмнае забеспячэнне складаецца з канспектаў да 106 урокаў для навучальных устаноў з трыма ўрокамі на тыдзень і з канспектаў да 70 урокаў (двое заняткаў на тыдзень) для ПТВ, ССНУ, ВНУ. Першая частка ўрока прызначана для вывучэння новага і замацавання раней вывучанага матэрыялу, а другая, не менш як 20 хвілін, – для аздараўлення маладога пакалення сродкамі фізічнага ўздзеяння.

Акрамя модуля праграмнага забеспячэння, падрыхтаваны вучэбны дапаможнік "Аздараўленчая фізічная культура", які дазваляе больш дэталёва вывучыць новыя падыходы і формы аздараўлення дашкольнікаў, вучняў, студэнтаў.

Паводле дагавора з Міністэрствам адукацыі, гэтыя модулі перададзены на эксперыментальныя базы ва ўсе тыпы навучальных устаноў, дзе яны праходзяць апрабацыю. Па папярэднім заключэнні настаўнікаў: "Методыка дазволіла перавесці вучэбны працэс на больш высокі ўзровень, павысіць цікавасць вучняў да нашай дысцыпліны".

Актыўны ўдзел у эксперыменце настаўнікаў і выкладчыкаў дазволіць улічыць найбольш важныя заўвагі і прапановы па ўдасканаленні сістэмы аздараўлення навучэнскай моладзі. Гэта дапаможа атрымаць адказы на пытанні ў такой форме, якую можна выкарыстоўваць з мінімальным адхіленнем ад агульнапрызнаных норм, што склаліся ў педагагічнай практыцы ва ўсіх тыпах навучальных устаноў.

Распрацаваная методыка дазваляе:

– ахапіць "аўтаматызаванай фізкультурнай дыспансерызацыяй" дашкольнікаў, вучняў, навучэнцаў, студэнтаў, а ў перспектыве і ўсе слаі насельніцтва рэспублікі, з выкарыстаннем магутных банкаў даных для збору і захоўвання інфармацыі на кожнага чалавека ад нараджэння да старасці;

– ажыццяўляць аналіз дынамікі функцыянальнага стану, фізічнага развіцця, фізічнай падрыхтаванасці, разумовай працаздольнасці і выдаваць персанальныя заключэнні ("пашпарт здароўя") і рэкамендацыі па аздараўленчай фізкультуры (канспекты ўрокаў, дамашнія заданні па рухальнай актыўнасці);

– больш аператыўна атрымліваць індывідуальныя кваліфікаваныя камп'ютэрныя кансультацыі па пытаннях асабістай фізічнай культуры, выдаваць інфармацыю па распрацоўцы індывідуальных праграм заняткаў фізічнай культурай, значна эканомячы час педагогаў, якія выкладаюць фізкультуру;

– аказваць садзейнічанне ў паліклінічнай дыспансерызацыі тых, хто сапраўды мае патрэбу ў кваліфікаванай медыцынскай дапамозе.

**Уладзімір КОЛАС,**
**заслужаны трэнер Рэспублікі Беларусь,**
**кандыдат педагагічных навук, прафесар, акадэмік.**

БАСКЕТБОЛ

# Алімпійскія дні моладзі Беларусі

***У Мінску пяць дзён праходзіла першынство Беларусі па баскетболу ў праграме Алімпійскіх дзён моладзі сярод юнакоў і дзяўчат 1985-86 гадоў нараджэння.***

Сем юнацкіх каманд зборных усіх абласцей і сталіцы спаборнічалі ў спарткомплексе БДПА. Пасля папярэдніх гульняў змагацца за ўзнагароды ў фінальнай чацвёрцы працягвалі баскетбалісты Мінскай, Магілёўскай і Гомельскай абласцей.

Пры роўнасці фінальных ачкоў толькі па дадатковых паказчыках кубак і чэмпіёнскія медалі заваявалі сталічныя спартсмены. Сярэбраныя медалі ўручылі баскетбалістам Магілёўскай вобласці, бронзавыя – камандзе Мінскай вобласці. Далей спіс пераможцаў працягваюць каманды Гомельскай, Гродзенскай, Віцебскай і Брэсцкай абласцей.

Спаборніцтвы сярод дзяўчат прайшлі ў ДФК "Гарызонт". Атрымаўшы перамогу ва ўсіх гульнях, першае месца занялі баскетбалісткі Гродзенскай вобласці. "Серабро" і "бронза" дасталіся адпаведна зборным Мінска і Гомельскай вобласці.

Астатнія месцы падзялілі між сабой каманды Магілёўскай, Брэсцкай і Мінскай абласцей.

ШАШКІ

# Вундэркінды з 15 краін свету

***У Мінску закончыўся чэмпіянат свету па міжнародных шашках сярод кадэтаў.***

Дзевяць дзён у Палацы шашак і шахмат па швейцарскай сістэме ў дзевяць тураў спаборнічалі 34 спартсмены не старэй 17-гадовага ўзросту з 15 краін свету.

Атрымаўшы 14 ачкоў з 18 магчымых, чэмпіёнам стаў 15-гадовы латыш Роберт Місас. Сярэбраны медаль заваяваў галандзец (13 ачкоў), бронзавы – украінец С.Бананаў (12 ачкоў). Усе пераможцы – аднагодкі.

Беларусь прадстаўлялі тры ўдзельнікі . Чэмпіён краіны па рускіх шашках сярод мужчын 14-гадовы Ігар Міхальчанка з Ваўкавыска ў гэтым турніры без паражэння набраў 10 ачкоў і заняў 13-е месца. Па 9 ачкоў набралі мінчанін Уладзімір Сплендэр (17-е месца) і гамяльчанін Андрэй Тоўчыкаў (18-е месца). І хоць Андрэю Тоўчыкаву ўсяго толькі 11 гадоў, ён напярэдадні на турніры ў гонар 58-годдзя вызвалення Гомеля ад гітлераўскіх акупантаў выканаў майстарскі норматыў – гэта рэкорд Рэспублікі Беларусь.

**Вільям АСТРЫНСКІ.**

Спецыяльная адукацыя

# Яны не горшыя за іншых, яны другія

### ПЕРААДОЛЬВАЮЧЫ ЦЯЖКАСЦІ

Уладзімір Фёдаравіч Клімушкін адпрацаваў настаўнікам фізкультуры ў Пінскай спецшколе-інтэрнаце для глухіх дзяцей больш як васемнаццаць гадоў. І хоць да гэтага ўжо меў дванаццацігадовы вопыт трэнерства ў мясцовай спартыўнай школе, прыйшоўшы сюды зразумеў, што трэба зноў вучыцца, бо праца з глухімі мае сваю спецыфіку.

– Як і іншыя людзі, якія ніколі не сутыкаліся з гэтай праблемай, я меў дастаткова цьмянае ўяўленне пра дзяцей, пазбаўленых слыху, – гаворыць Уладзімір Фёдаравіч. – Але аднойчы мне давялося назіраць складаную сітуацыю: у школе-інтэрнаце наладжвалася нейкае свята, гучную музыку было чуваць ужо на падыходзе да школьнага будынка. Яна была такой моцнай, што закладвала вушы. Каля самой апаратуры стаяла дзяўчо і намагалася злавіць хоць нейкія гукі.

Складана ўявіць, як можна працаваць у такім выпадку настаўніку, які не ведае мовы жэстаў. Але, паводле слоў Уладзіміра Фёдаравіча, амаль 90 працэнтаў інтэрнатнага педкалектыву складалі людзі, якія не мелі спецыяльнай падрыхтоўкі. Давялося спачатку карыстацца толькі мімікай і тлумачыць фізічныя практыкаванні адвольнымі рухамі. З цягам часу пераняў у больш вопытных калег некалькі універсальных прыёмаў. Грунтаваліся яны ў асноўным на візуальным успрыманні дзецьмі навакольнага свету і на іх тонкім адчуванні вібрацыі. Але цяжкасці ўзнікалі не толькі ў наладжванні ўзаемін.

– Дагэтуль мае вучні не мелі цікавасці да ўрокаў фізкультуры, – распавядае настаўнік. – Адзінае, што я мог зрабіць у такім выпадку, гэта падыходзіць да сваіх заняткаў з душой. Бо можна проста кінуць на пляцоўку мяч і прапанаваць дзецям пагуляць, а можна паказаць, як робіцца тая ці іншая перадача, пас, правесці некалькі практыкаванняў. Для таго, каб заахвоціць вучняў вельмі важна самому прайсці школу спартыўнага майстэрства. Я ў свой час сур'ёзна займаўся валейболам, таму і звярнуў увагу школьнікаў на гульневы спорт. Накіраванасць маіх урокаў набыла не толькі аздараўленчы, але і вучэбна-трэніровачны характар.

Дзякуючы намаганням настаўніка, у хуткім часе ў школе-інтэрнаце з'явіўся новы расклад. Паколькі напаўняльнасць класаў у падобных навучальных установах невялікая (у нашым выпадку гэта ў сярэднім шэсць чалавек), дык праводзіць на ўроках фізкультуры гульні або спаборніцтвы было амаль немагчыма. Аднак выйсце знайшлося: Клімушкін аб'ядноўваў два класы ў адзін і праводзіў заняткі з такімі групамі. У выніку замест двух урокаў на тыдзень з'явіліся чатыры, адзін з якіх настаўнік адпрацоўваў бясплатна.

Ён мэтанакіравана вывучаў інтарэсы і здольнасці кожнага школьніка, а потым фарміраваў вучнёўскія каманды. Настаўнік не забываў пра тое, што з яго дзецьмі неабходна спецыяльная праца. Ён шмат чытаў, назіраў за дасягненнямі сваіх калег, спрабаваў па-рознаму падысці да вырашэння адной і той жа задачы – і ў выніку распрацаваў набор практыкаванняў для трэніровак сваіх вучняў.

– Прапусціць урок фізкультуры стала для нас сапраўдным пакараннем, – дзеляцца ўспамінамі яго былыя выхаванцы. – Уладзімір Фёдаравіч чалавек вельмі ўважлівы і патрабавальны. Ён з тых, хто ўмее перадаць дзецям свой запал, свой спартыўны азарт. І таму не дзіўна, што каманды школы-інтэрната па валейболу, баскетболу, настольнаму тэнісу, лыжнаму спорту, якія дагэтуль займалі апошнія месцы ў спаборніцтвах, сталі дасягаць высокіх вынікаў.

### ЧАС ПЕРАМОГ І ПЫТАННЯЎ

Каманды змянілі школьны ўзровень на гарадскі, і пачалася паласа поспехаў. Доўгая і цяжкая праца прыносіла свой плён. Уладзімір Фёдаравіч з радасцю назіраў за шматлікімі перамогамі сваіх выхаванцаў.

– Калі мае вучні сустракаліся на спартыўнай пляцоўцы з навучэнцамі звычайных школ, а то і ПТВ, СНУ, я заўсёды адчуваў іх мужнасць, – гаворыць Клімушкін. – Яны могуць разумець адзін аднаго толькі з дапамогай мімікі і поглядаў, жэсты не надта выкарыстаеш, бо рукі заняты мячом. Звычайна сапернікі мелі магчымасць перагаворвацца, трэнер – даць ім парады. Я ў такіх выпадках быў бездапаможны. І ўсё ж нашы перамагалі.

Вучні Клімушкіна пачыналі выступаць на рэспубліканскім узроўні, а потым занялі чацвёртае месца на Саюзным першынстве для глухіх дзяцей, якое некалі адбылося ў Ташкенце. Сам жа Уладзімір Фёдаравіч, на той час ужо выдатнік народнай адукацыі, быў названы настаўнікам года.

Азіраючыся назад, ён разумее, што шматлікія праблемы засталіся нявырашанымі.

– Вельмі крыўдна бывае за тых дзяцей, якія па прычыне хваробы доўга не пераходзяць з класа ў клас. І атрымліваецца, што 19-гадовы юнак ці дзяўчына ўсё яшчэ з'яўляюцца школьнікамі, але не могуць прымаць удзел у спаборніцтвах, абмежаваных пэўнымі ўзроставымі рамкамі. На жаль, спецыялісты пакінулі гэтае пытанне па-за ўвагай.

Ды і наогул вельмі мала праводзіцца спаборніцтваў менавіта для дзяцей, пазбаўленых слыху. У каманд, якія жадаюць і могуць заявіць аб сабе, няма такой магчымасці, а значыць у дзяцей знікае жаданне працаваць і ўдасканальваць свае фізічныя здольнасці. Невядома па якой прычыне не існуе Алімпійскіх гульняў сярод глухіх дзяцей. Хіба гэтыя дзеці горшыя за астатніх? Не, яны проста іншыя.

Уладзімір Фёдаравіч не раз узнімаў гэтае пытанне сярод калег. У адказ яму прапанавалі змяніць профіль працы, інакш кажучы, займацца фізічным выхаваннем дзяцей з разумовымі адхіленнямі, сярод якіх праводзяцца ўсе названыя спаборніцтвы. Але ж гэта не вырашыць праблемы. І настаўнік, не трацячы веры ў лепшае, працягваў працаваць з глухімі дзецьмі.

У 2001 годзе яго вучаніца Таццяна Клімковіч заняла другое месца ў сямібор'і на Алімпійскіх гульнях сярод дарослых глухіх. Для яе першага трэнера Уладзіміра Клімушкіна – гэта і яго ўласная перамога.

**Наталля АЛЁХІНА.**

У Гуманітарным эканамічным недзяржаўным інстытуце адкрыўся музей спартыўнай славы. Каля двухсот спартсменаў з'яўляюцца выпускнікамі і студэнтамі інстытута. Сярод іх такія вядомыя, як Іван Іванкоў, Націк Багіраў, Уладзімір Дуброўшчык, Яўгенія Паўліна, Аляксей Айдараў, Дзмітрый Дашчынскі, Аляксей Грышын і многія іншыя. Спартыўная дружына інстытута з'яўляецца лідэрам беларускага спорту. Без удзелу яе прадстаўнікоў не праходзіць ніводнае спартыўнае спаборніцтва самага высокага ўзроўню – Алімпійскія гульні, чэмпіянаты свету і Еўропы, Сусветныя універсіяды.

НА ЗДЫМКУ: студэнты інстытута чэмпіён свету па каратэ Аляксей Багданаў і чэмпіён свету па тайскаму боксу Іван Талкачоў.

**Фота Генадзя СЯМЁНАВА, БЕЛТА.**

# Палажэнне аб прыёмнай камісіі вышэйшай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь

***(Зацверджана Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 28.12.2001 № 65)***

### Глава 1
### Агульныя палажэнні

1. Прыёмная камісія вышэйшай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь (далей – ВНУ) арганізуецца штогод для фарміравання кантынгенту студэнтаў усіх формаў навучання з ліку найбольш падрыхтаванай і прафесійна арыентаванай моладзі.

2. Састаў прыёмнай камісіі, правы і абавязкі яе членаў вызначае і зацвярджае рэктар ВНУ, які з'яўляецца старшынёй прыёмнай камісіі і нясе адказнасць за выкананне дадзенага Палажэння аб прыёмнай камісіі вышэйшай навучальнай установы Рэспублікі Беларусь (далей – Палажэння), Парадку прыёму ў ВНУ, які распрацоўваецца кожнай ВНУ штогод, і іншых актаў заканадаўства, рэгулюючых пытанні прыёму ў ВНУ.

3. Тэрмін паўнамоцтваў прыёмнай камісіі складае адзін год. Работа прыёмнай камісіі завяршаецца аналізам і абагульненнем вынікаў прыёму, падрыхтоўкай прапаноў для разгляду на Савеце ВНУ, саветах факультэтаў і на кафедрах.

4. З ліку найбольш вопытных і кваліфікаваных педагогаў ВНУ на ўвесь перыяд арганізацыі прыёму назначаюцца адказны сакратар прыёмнай камісіі і яго намеснікі.

5. У структурных падраздзяленнях ВНУ (філіял, навучальна-кансультацыйны пункт) пры неабходнасці для прыёму дакументаў арганізоўваюцца адборачныя камісіі, якія працуюць пад непасрэдным кіраўніцтвам прыёмнай камісіі ВНУ.

6. Загад аб зацвярджэнні саставу прыёмнай і адборачных камісій выдаецца рэктарам ВНУ штогод не пазней за снежань.

У склад прыёмнай камісіі па службоваму абавязку ўваходзяць рэктар, які з'яўляецца старшынёй прыёмнай камісіі, і дэканы факультэтаў, на якіх ажыццяўляецца прыем студэнтаў.

7. У сваёй рабоце прыёмная камісія кіруецца дадзеным Палажэннем, Правіламі прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь, Парадкам прыёму навучальнай установы, іншымі актамі заканадаўства, рэгулюючымі пытанні прыёму, планам работы, які складаецца на ўвесь перыяд прыёму і зацвярджаецца старшынёй прыёмнай камісіі.

8. Рашэнні прыёмнай камісіі прымаюцца простай большасцю галасоў пры наяўнасці не менш за 2/3 саставу. Работа прыёмнай камісіі афармляецца пратаколам, які падпісваецца старшынёй і адказным сакратаром прыёмнай камісіі.

9. Для правядзення ўступных іспытаў за 2–3 месяцы да іх пачатку загадам рэктара арганізуюцца экзаменацыйныя камісіі з ліку найбольш кваліфікаваных, вопытных і прынцыповых выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, настаўнікаў сярэдніх школ, зацвярджаюцца іх старшыні.

10. Да работы ў прыёмнай і экзаменацыйных камісіях не допускаюцца асобы, якія займаюцца прыватным рэпетытарствам у дадзенай ВНУ.

11. З мэтай паляпшэння работы прыёмнай, экзаменацыйных і адборачных камісій за выключэннем членаў, якія ўваходзяць у іх па службоваму абавязку, рэкамендуецца штогод абнаўляць іх састаў не менш, чым на адну трэць.

Забяспечваецца пераемнасць і змянянасць (не больш трох гадоў працы запар) адказнага сакратара прыёмнай камісіі, яго намеснікаў, старшынь экзаменацыйных камісій, экзаменатараў.

12. ВНУ распрацоўваюць функцыянальныя абавязкі кіраўнікоў прыёмных і экзаменацыйных камісій, адказнага сакратара, яго намеснікаў і іншых асоб, занятых у рабоце па прыёме студэнтаў, на падставе дадзенага Палажэння.

### Глава 2
### Функцыі прыёмнай камісіі

13. Прыёмная камісія арганізоўвае работу па прафесійнай арыентацыі моладзі, выданню і распаўсюджванню разнастайных інфармацыйных матэрыялаў, якія характарызуюць профіль навучальнай установы, падрыхтоўцы бланкаў неабходнай дакументацыі па прыёме.

14. Прыёмная камісія арганізоўвае перадэкзаменацыйныя кансультацыі па прадметах, якія выносяцца на ўступныя іспыты.

15. Прыёмная камісія арганізоўвае прыём дакументаў ад абітурыентаў, іх афармленне і захоўванне, перапіску па пытаннях прыёму.

16. Прыёмная камісія прымае рашэнні аб допуску абітурыентаў да здачы ўступных іспытаў, правядзенні ўступных іспытаў і конкурснага адбору, аб залічэнні ў састаў студэнтаў.

17. Прыёмная камісія арганізоўвае, у выніку неабходнасці, медыцынскі агляд абітурыентаў у мэтах удакладнення стану іх здароўя з улікам характару навучання ў навучальнай установе і вытворчай рабоце па дадзенай спецыяльнасці.

18. Прыёмная камісія ажыццяўляе фарміраванне прадметных экзаменацыйных і адборачных камісій, падбор тэхнічнага персаналу, вызначэнне іх абавязкаў, забеспячэнне вывучэння імі актаў заканадаўства па пытаннях прыёму, арганізацыю кантролю за іх дзейнасцю.

19. Прыёмная камісія прымае рашэнні аб прыёме ўступных іспытаў выязной камісіяй ВНУ ў структурных падраздзяленнях, у іншай навучальнай установе.

### Глава 3
### Арганізацыя работы прыёмнай камісіі

20. Члены прыёмнай камісіі знаёмяцца з дакументамі, праводзяць субяседаванне з усімі абітурыентамі, даюць рэкамендацыі па выбары спецыяльнасці з улікам іх падрыхтоўкі і асабістых схільнасцяў.

21. Дакументы абітурыентаў рэгіструюцца ў журнале ўстаноўленай формы, абітурыентам выдаецца распіска аб прыёме дакументаў.

22. Прыёмная камісія прымае рашэнне аб умовах удзелу ў конкурсе і допуску да ўступных іспытаў перад іх пачаткам і паведамляе аб гэтым абітурыенту ў пісьмовай форме.

Дапушчаным да ўступных іспытаў напярэдадні іспытаў выдаецца экзаменацыйны ліст устаноўленага ўзору.

23. Для абітурыентаў праводзяцца кансультацыі як па зместу праграм уступных іспытаў, так і па арганізацыі апытання, крытэрыях ацэнкі, прад'яўляемых патрабаваннях, узроўнях складанасці экзаменацыйных заданняў, парадку конкурснага залічэння, устаноўленых заканадаўствам і ВНУ льготах.

24. Уступныя іспыты праводзяцца ў тэрміны, вызначаныя Парадкам прыёму ВНУ. Расклад уступных іспытаў зацвярджаецца рэктарам ВНУ не пазней, чым за тыдзень да іх правядзення. Прозвішчы экзаменатараў у раскладзе не ўказваюцца. Інтэрвалы паміж іспытамі, як правіла, складаюць не менш, чым 2–3 дні.

25. Па адным і тым жа прадмеце могуць праводзіцца пісьмовыя і вусныя іспыты. У гэтым выпадку, як правіла, пісьмовыя работы экзаменатары павінны праверыць да пачатку вусных іспытаў.

26. Уступныя іспыты праводзяцца па экзаменацыйных білетах і заданнях, якія штогод складаюцца старшынямі экзаменацыйных камісій у адпаведнасці з праграмамі, зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь, падпісваюцца імі і зацвярджаюцца старшынёй прыёмнай камісіі за месяц да пачатку іспытаў. Старшыня экзаменацыйнай камісіі нясе асабістую адказнасць за захаванасць інфармацыі.

27. У адпаведнасці з зацверджанымі Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь крытэрыямі ацэнкі ведаў абітурыентаў ВНУ па шасцібальнай і дзесяцібальнай сістэмах старшыні экзаменацыйных камісій вызначаюць крытэрыі ацэнкі ведаў абітурыентаў дадзенай ВНУ і зацвярджаюць іх рашэннем прыёмнай камісіі.

28. Колькасць білетаў павінна быць большай, чым колькасць экзаменуемых у групе, а колькасць камплектаў вызначае старшыня прыёмнай камісіі. Ён нясе асабістую адказнасць за захоўванне экзаменацыйных матэрыялаў.

29. У экзаменацыйныя білеты ўключаюцца, як правіла, два-тры пытанні, у тым ліку пры неабходнасці, адна-дзве задачы або прыклады. Пытанні білетаў павінны ахопліваць усю праграму прадметаў з улікам як тэарэтычнага, так і практычнага яе раздзелаў.

30. Тэксты дыктантаў, пераказаў, заданняў для тэсціравання і тэм сачыненняў устанаўліваюцца ў адпаведнасці з дзеючымі нормамі сярэдняй агульнаадукацыйнай школы.

31. Экзаменацыйныя групы для здачы ўступных іспытаў фарміруюцца, як правіла, па 25–30 чалавек. Для зручнасці пры правядзенні вусных іспытаў група можа разбівацца на падгрупы для здачы іспытаў адна пасля другой у адзін і той жа дзень.

32. Старшыня, яго намеснік або адказны сакратар прыёмнай камісіі перад пачаткам іспытаў выдае старшыням экзаменацыйных камісій неабходную колькасць камплектаў экзаменацыйных білетаў, варыянты пісьмовых заданняў і прызначае экзаменатараў у групы.

33. Пры правядзенні пісьмовага экзамену варыянт задання вызначаецца жараб'ёўкай з удзелам абітурыентаў.

34. Прысутнасць на іспытах пабочных асоб без дазволу старшыні прыёмнай камісіі або яго намесніка не дапускаецца.

35. У аўдыторыі, дзе праводзяцца іспыты, абітурыент прад'яўляе пашпарт або іншае пасведчанне асобы, выдадзенае органамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь і экзаменацыйны ліст. Пасля праверкі асобы абітурыента, яму прапануецца выцягнуць білет і выдаецца бланк ліста вуснага адказу або бланкі тытульнага ліста з укладышам для выканання пісьмовай работы і ўказваецца месца ў аўдыторыі.

36. Вусныя іспыты ў кожнага абітурыента прымаюцца двума экзаменатарамі, а іспыты па спецыяльнасці – не менш чым трыма экзаменатарамі (архітэктура, мастацтва, фізкультура, іншыя).

37. Адначасова ў аўдыторыі павінна знаходзіцца не больш за 6–7 абітурыентаў, падрыхтоўка да адказу павінна складаць не больш за 1,5 гадзіны.

38. Пры падрыхтоўцы да вусных іспытаў абітурыент абавязкова робіць запісы ў лісце вуснага адказу са штампам ВНУ, а экзаменатары адзначаюць правільнасць і паўнату адказаў на пытанні білета і дадатковыя пытанні, якія запісваюцца ў ліст вуснага адказу экзаменатарам. Дадатковыя пытанні павінны насіць удакладняючы характар і не выходзіць за межы праграмы.

39. На ўступных іспытах павінны быць створаны спакойныя і добразычлівыя абставіны, абітурыенту дадзена магчымасць найбольш поўна выявіць узровень сваіх ведаў і ўменняў.

40. Вынікі ўступных іспытаў могуць вызначацца па шасцібальнай сістэме ацэнкамі: "5" (пяць), "4,5" (чатыры з паловай), "4" (чатыры), "3,5" (тры з паловай), "3" (тры), "2" (два); па дзесяцібальнай сістэме ацэнкамі: "10" (дзесяць балаў), "9" (дзевяць балаў), "8" (восем балаў), "7" (сем балаў), "6" (шэсць балаў), "5" (пяць балаў), "4" (чатыры балы), "3" (тры балы), "2" (два балы), "1" (адзін бал).

41. Экзаменацыйная ацэнка ставіцца лічбай і прапісцю перш у лісце вуснага адказу, потым у экзаменацыйнай ведамасці, пасля ў экзаменацыйным лісце абітурыента. Кожная ацэнка па вусных іспытах ў экзаменацыйнай ведамасці і ў экзаменацыйным лісце падпісваецца двума экзаменатарамі.

42. На правядзенне пісьмовага ўступнага экзамену прадугледжваецца да 4-х гадзін (240 хвілін) без перапынку.

Пісьмовыя экзаменацыйныя работы (у тым ліку чарнавікі) выконваюцца на лістах-укладышах са штампам ВНУ, на якіх недапушчальны ніякія пабочныя паметкі і запісы, і здаюцца экзаменатару. У выпадках выяўлення парушэнняў, дапушчаных абітурыентамі, экзаменацыйныя работы не шыфруюцца і перадаюцца на разгляд экзаменацыйнай камісіі.

43. Лісты са штампам ВНУ да выдачы іх экзаменатарам знаходзяцца ў адказнага сакратара прыёмнай камісіі і падлягаюць строгаму ўліку. Правераныя работы, а таксама лісты вуснага адказу пасля экзамену перадаюцца экзаменатарамі адказнаму сакратару (яго намесніку), які нясе асабістую адказнасць за іх захаванне.

44. Пісьмовыя экзаменацыйныя работы правяраюцца пад шыфрам без указання прозвішча абітурыента. Шыфроўку пісьмовых работ праводзіць адказны сакратар прыёмнай камісіі або яго намеснік у прысутнасці аднаго з кіраўнікоў прыёмнай камісіі.

45. Пасля шыфроўкі тытульныя лісты захоўваюцца ў сейфе адказнага сакратара, а лісты-укладышы вяртаюцца старшыні экзаменацыйнай камісіі, які размяркоўвае пісьмовыя работы паміж членамі экзаменацыйнай камісіі для праверкі.

46. Праверка пісьмовых работ праводзіцца толькі ў памяшканні ВНУ і толькі членамі экзаменацыйнай камісіі.

47. Старшыня экзаменацыйнай камісіі або яго намеснік абавязкова правярае пісьмовыя работы, якія ацэнены экзаменатарамі на ацэнкі: "1" (адзін бал), "2" (два балы), "8" (восем балаў), "9" (дзевяць балаў), "10" (дзесяць балаў) па дзесяцібальнай сістэме і на ацэнкі: "2" (два) і "5" (пяць) па шасцібальнай сістэме, а таксама выбарачна 5% астатніх работ, правераных экзаменатарамі, і правільнасць ацэнкі засведчвае сваім подпісам. Прадугледжваецца 0,15 гадзіны на кожную работу.

48. Абітурыенты, якія не паспелі выканаць работы поўнасцю, аддаюць іх незакончанымі.

Работы абітурыентаў, якія парушылі правілы правядзення ўступных іспытаў, не ацэньваюцца, абітурыенты да далейшых іспытаў не дапускаюцца. Выпадкі зафіксаваных парушэнняў старшыня экзаменацыйнай камісіі і экзаменатары афармляюць адпаведным актам і перадаюць адказнаму сакратару.

49. Правераныя пісьмовыя работы, а таксама запоўненыя экзаменацыйныя ведамасці з шыфрамі, ацэнкамі і подпісамі правяраўшых экзаменатараў старшынёй экзаменацыйнай камісіі перадаюцца адказнаму сакратару або яго намесніку, якія праводзяць дэшыфроўку работ. Пасля гэтага ведамасці і экзаменацыйныя лісты перадаюцца старшыні экзаменацыйнай камісіі, які арганізуе ўпісванне ацэнкі з ведамасці ў экзаменацыйны ліст абітурыента.

50. Экзаменацыйныя камісіі аналізуюць якасць ведаў абітурыентаў і рыхтуюць абагульняючы матэрыял для прадстаўлення ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь.

51. Пісьмовыя работы і лісты вусных адказаў асоб, якія залічаны ў ВНУ, абавязкова захоўваюцца ў іх асабовых справах.

Пісьмовыя работы і лісты вусных адказаў асоб, якія атрымалі нездавальняючыя ацэнкі ці не прайшлі па конкурсе, знішчаюцца па сканчэнні шасці месяцаў пасля ўступных іспытаў.

52. На праверку пісьмовых экзаменацыйных работ адводзіцца: 3 дыктанты, пераказы – 1 гадзіна (акадэмічная), 2 сачыненні – 1 гадзіна (акадэмічная), 3 работы па матэматыцы, фізіцы і іншых дысцыплінах – 1 гадзіна (акадэмічная), 3 тэсты (пісьмовых ці вусных) – 1 гадзіна (акадэмічная).

53. На вусныя іспыты адводзіцца не больш за 1/3 акадэмічнай гадзіны (15 хвілін).

54. За правядзенне субяседавання па прадметах уступных экзаменаў аплата праводзіцца па фактычна затрачаным часе, але не больш за 15 хвілін на аднаго абітурыента.

55. У межах наяўнага фонду заработнай платы праводзіцца аплата за правядзенне перадэкзаменацыйных кансультацый: перад уступнымі іспытамі – 2 гадзіны на паток або групу.

56. Дадатковая аплата старшыні прыёмнай камісіі, работнікам, якія выконваюць абавязкі адказнага сакратара, яго намеснікаў і членаў прыёмнай камісіі, старшынь і членаў экзаменацыйных камісій можа праводзіцца ў межах наяўнага фонду заработнай платы.

Памер даплаты ўстанаўлівае рэктар ВНУ.

57. Пераздача ўступных іспытаў не дапускаецца. Асобы, якія атрымалі нездавальняючую ацэнку, а таксама якія не з'явіліся без уважлівых прычын на ўступныя іспыты, да далейшых іспытаў не дапускаюцца.

Пры наяўнасці ўважлівых прычын, пацверджаных дакументамі, абітурыенты могуць дапускацца да здачы ўступных іспытаў з дазволу намесніка старшыні прыёмнай камісіі ці адказнага сакратара ў межах вызначаных тэрмінаў правядзення іспытаў у дадзенай ВНУ.

58. Кожны абітурыент мае права асабіста азнаёміцца са сваёй пісьмовай работай незалежна ад атрыманай ацэнкі.

Апеляцыі па пытаннях экзаменацыйнай ацэнкі павінны быць абгрунтаваны і падаюцца абітурыентам адказнаму сакратару (яго намесніку) на імя рэктара ў дзень правядзення вусных іспытаў або ў дзень абвяшчэння ацэнкі па пісьмовым экзамене.

Парадак падачы і разгляду апеляцый павінен быць аб'яўлены разам з Парадкам прыёму ў ВНУ на рэкламным стэндзе, абітурыенты абавязаны з ім азнаёміцца у час падачы дакументаў у ВНУ, аб чым распісваюцца у заяве на імя рэктара.

Пры разглядзе апеляцый абітурыентаў дадатковае іх апытанне не дапускаецца.

Разгляд апеляцыі праводзіцца не пазней, чым на наступны дзень пасля яе падачы.

59. Усе выпадкі далейшага змянення выстаўленых экзаменатарамі ацэнак суправаджаюцца пісьмовым абгрунтаваннем апеляцыйнай камісіі, тлумачэннем экзаменатара і зацвярджаюцца рашэннем прыёмнай камісіі.

60. Правядзенне конкурсу і залічэнне ў састаў студэнтаў ажыццяўляецца ў адпаведнасці з Парадкам прыёму ВНУ публічна, на адкрытым пасяджэнні прыёмнай камісіі.

61. Рашэнне прыёмнай камісіі аб залічэнні ў састаў студэнтаў афармляецца пратаколам, у якім указваюцца падставы для залічэння: без уступных экзаменаў, па мэтавым прыёме, па выніках субяседавання ці аднаго экзамену, па-за конкурсам, па конкурсе; падставы для залічэння асоб, набраўшых паўпрахадны бал, а таксама прычыны адказу ў прыёме.

62. Загад аб залічэнні ў састаў студэнтаў выдаецца рэктарам ВНУ толькі на падставе рашэння прыёмнай камісіі.

Спісы залічаных у студэнты вывешваюцца да агульнага ведама.

63. Асобам, якія залічаны, а таксама не залічаны ў састаў студэнтаў, накіроўваюцца паведамленні ўстаноўленай формы.

64. Асобам, якія не прайшлі па конкурсе, выдаюцца па іх просьбе даведкі ўстаноўленай формы аб здадзеных уступных іспытах для ўдзелу ў конкурсе на платнае навучанне ці навучанне ў іншай ВНУ.

65. У месячны тэрмін пасля заканчэння ўступных іспытаў прыёмная камісія прадстаўляе ў Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь аналіз якасці ведаў абітурыентаў па прадметах, а таксама прапановы па ўдасканаленні актаў заканадаўства па пытаннях прыёму.

66. Вызначаецца наступны пералік бланачнай дакументацыі па прыёме ў ВНУ: заява абітурыента аб допуску да ўступных іспытаў, заява абітурыента аб удзелу ў конкурсе на платнае навучанне, журнал рэгістрацыі дакументаў абітурыентаў, вопіс асабовай справы – распіска аб прыёме дакументаў, экзаменацыйны ліст, паведамленне аб допуску да ўступных іспытаў, экзаменацыйная ведамасць, паведамленне аб залічэнні на дзённую форму навучання, паведамленне аб залічэнні на безадрыўныя формы навучання, паведамленне аб залічэнні на навучанне на ўмовах аплаты, паведамленне аб вяртанні дакументаў, даведка аб здадзеных экзаменах, экзаменацыйны білет, ліст вуснага адказу, тытульны ліст, ліст-укладыш (нелінаваная папера), ліст-укладыш (лінаваная папера), заява аб выдачы арыгіналаў дакументаў, заява аб прыёме арыгіналаў дакументаў.

## Адукацыя: Дакументы Каментарыі

# Правілы прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2002 год

***(Зацверджаны Пастановай Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь 28.12.2001 № 65)***

1. У дзяржаўных вышэйшых навучальных установах Рэспублікі Беларусь (далей – ВНУ) маюць права на базе сярэдняй адукацыі атрымаць на конкурснай аснове бясплатную вышэйшую адукацыю, калі адукацыя дадзенага ўзроўню атрымліваецца ўпершыню, грамадзяне Рэспублікі Беларусь і беларусы, якія пражываюць за яе межамі, грамадзяне Расійскай Федэрацыі, Рэспублікі Казахстан, Кыргызскай Рэспублікі, Рэспублікі Таджыкістан, а таксама асобы, якія пастаянна пражываюць у Рэспубліцы Беларусь або маюць статус бежанца.

Парадак прыёму грамадзян іншых замежных дзяржаў дзяржаўныя ВНУ вызначаюць па ўзгадненні з органамі дзяржаўнага кіравання ў адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, калі іншае не прадугледжана міждзяржаўнымі пагадненнямі.

У ВНУ недзяржаўнай формы ўласнасці маюць права на базе сярэдняй адукацыі атрымаць вышэйшую адукацыю на дагаворных умовах грамадзяне Рэспублікі Беларусь, замежныя грамадзяне, а таксама асобы без грамадзянства, якія пастаянна пражываюць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

2. Колькасць месцаў для прыёму студэнтаў у дзяржаўныя ВНУ на навучанне за кошт сродкаў дзяржаўнага бюджэту вызначаецца кантрольнымі лічбамі прыёму, што ўстанаўліваюцца органамі дзяржаўнага кіравання, у падпарадкаванні якіх знаходзяцца ВНУ.

Колькасць месцаў для прыёму студэнтаў у ВНУ недзяржаўнай формы ўласнасці вызначаецца ў адпаведнасці з ліцэнзіяй і ўлікам квоты на падрыхтоўку спецыялістаў па юрыдычных спецыяльнасцях.

3. Звыш кантрольных лічбаў прыёму дзяржаўныя ВНУ могуць ажыццяўляць прыём студэнтаў на падставе дагавораў з аплатай навучання юрыдычнымі або фізічнымі асобамі.

На звышпланавыя месцы, колькасць якіх і ўмовы залічэння вызначаюць ВНУ ў залежнасці ад наяўнай вучэбна-лабараторнай базы і прафесарска-выкладчыцкага складу, па конкурсе могуць залічвацца абітурыенты, якія станоўча здалі ўсе ўступныя іспыты, але не былі залічаны на бюджэтныя месцы ў гэтую ці іншую дзяржаўную ВНУ (пры ўмове адпаведнасці ўступных іспытаў незалежна ад формы іх правядзення), а таксама асобы, якія прайшлі даінстытуцкую падрыхтоўку ў дзяржаўных ВНУ (падрыхтоўчае аддзяленне, профільныя класы і групы) па выніках сумешчаных выпускных-уступных іспытаў.

На застаўшыяся месцы могуць залічвацца абітурыенты па выніках дадатковых уступных іспытаў у форме субяседавання.

Памер аплаты за навучанне вызначаюць ВНУ ў адпаведнасці з заканадаўствам.

4. Другую і наступную вышэйшую адукацыю можна атрымаць на ўмовах поўнай аплаты навучання юрыдычнымі або фізічнымі асобамі.

Умовы прыёму і навучання вызначаюцца адпаведным палажэннем.

5. Устанаўліваюцца наступныя тэрміны прыёму на бюджэтныя месцы дзеннай формы навучання ў дзяржаўных ВНУ:

прыём дакументаў – з 25 чэрвеня па 15 ліпеня; уступныя іспыты – у два патокі: першы – з 16 па 23 ліпеня, другі – з 24 па 31 ліпеня; вызначэнне прахаднога і паўпрахаднога бала і давядзенне да ведама абітурыентаў – 2 жніўня; залічэнне абітурыентаў, якія набралі прахадны бал і прадставілі арыгіналы ўсіх неабходных дакументаў – 4 жніўня; вызначэнне кандыдатаў на залічэнне з ліку абітурыентаў, якія набралі паўпрахадны бал і давядзенне да ведама абітурыентаў – 5 жніўня, залічэнне кандыдатаў на залічэнне, якія прадставілі арыгіналы ўсіх неабходных дакументаў – 7 жніўня;

Акадэмія кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь, Беларускі дзяржаўны універсітэт, Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў, Беларуская дзяржаўная акадэмія музыкі, Ваенная акадэмія, Каманднa-інжынерны інстытут, Гомельскае вышэйшае каманднa-інжынернае вучылішча прыём ажыццяўляюць у тэрміны, што ўзгоднены з органамі кіравання;

на завочную і вячэрнюю формы навучання прыём праводзіцца ў тэрміны, што вызначаюць ВНУ.

На платнае навучанне дзяржаўных ВНУ, а таксама ВНУ недзяржаўнай формы ўласнасці тэрміны прыёму дакументаў і правядзення ўступных іспытаў вызначаюць ВНУ, залічэнне – да 31 жніўня.

6. Дакументы, якія абітурыенты падаюць ці дасылаюць па пошце ў прыёмную камісію адной ці дзвюх ВНУ з указаннем першага ці другога патоку:

заява ўстаноўленага ўзору на імя рэктара;

арыгінал або яго натарыяльна завераная копія ці ксеракопія (ксеракопія завяраецца прыёмнай камісіяй па арыгіналу той ВНУ, у якую яна прадстаўляецца):

– дакумента дзяржаўнага ўзору аб сярэдняй адукацыі,

– сертыфіката цэнтралізаванага тэсціравання (для тых, хто ў ім удзельнічаў),

– медыцынскай даведкі па форме 086У,

– заключэння ўрачэбна-кваліфікацыйных камісій (для інвалідаў I–III груп, а таксама дзяцей-інвалідаў),

– выпіскі з працоўнай кніжкі (для тых, хто працуе),

– даведкі выканкама сельскага савета, што пацвярджае пастаяннае пражыванне ў сельскіх населеных пунктах не менш двух гадоў,

– даведкі службы занятасці насельніцтва (для тых, хто знаходзіцца на яе ўліку);

6 фотакартак памерам 3х4.

Абітурыенты, якія паступаюць не ў год атрымання сярэдняй адукацыі, абавязаны прадставіць дакументы, якія пацвярджаюць іх вучобу ці работу за гады, што папярэднічалі паступленню (дыплом, выпіска з працоўнай кніжкі або даведка службы занятасці насельніцтва, іншае).

Разам з пералічанымі прадстаўляюцца дакументы, якія пацвярджаюць права абітурыентаў на льготы, якія ўстаноўлены заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, ці сведчаць аб асабістых здольнасцях і талентах абітурыентаў.

Пашпарт або іншае пасведчанне асобы, выдадзенае органамі Міністэрства ўнутраных спраў Рэспублікі Беларусь, прад'яўляецца абітурыентам асабіста.

7. Уступныя іспыты для ВНУ ўсіх форм уласнасці могуць праводзіцца ў форме: экзаменаў, тэсціравання, субяседавання, аўдзіравання, праслухоўвання, прагляду.

Колькасць (3–5) уступных іспытаў і іх пералік вызначаюць ВНУ з улікам профілю спецыяльнасці і патрабаванняў адукацыйнага стандарта.

Прыёмныя камісіі вызначаюць профільныя (конкурсныя) іспыты, адзін з якіх праводзіцца першым і, як правіла, у пісьмовай форме.

Абавязковым іспытам з'яўляецца пісьмовы ўступны экзамен па беларускай ці рускай мове і літаратуры, як дзяржаўных мовах Рэспублікі Беларусь, які абітурыенты здаюць па выбары. Пры паступленні на філалагічныя спецыяльнасці неабходна здаваць экзамен па адпаведнай мове. Форму правядзення экзамену: сачыненне, пераказ, дыктант вырашаюць прыёмныя камісіі ВНУ (Беларускі дзяржаўны універсітэт – тэставае заданне). Для абітурыентаў дзённай формы навучання экзамен праводзіцца па цэнтралізаваных заданнях у фіксаваныя дні.

Уступныя іспыты па замежнай мове (англійскай, французскай, нямецкай, іспанскай) абітурыенты могуць здаваць па выбары, незалежна ад таго, якую замежную мову яны вывучалі ў сярэдняй навучальнай установе. Выключэнне складаюць спецыяльнасці замежных моў, на якія неабходна здаваць іспыты па адпаведнай замежнай мове. Прадугледжваецца ўвядзенне ўступных іспытаў па замежнай мове пры паступленні на эканамічныя і юрыдычныя спецыяльнасці, а таксама на іншыя спецыяльнасці па вырашэнні ВНУ.

Уступныя іспыты праводзяцца па праграмах, якія складзены ў адпаведнасці з вучэбнымі праграмамі агульнай сярэдняй адукацыі і зацверджаны Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь. Выключэнне складаюць праграмы ўступных іспытаў па дысцыплінах мастацтва і фізічнай культуры, якія распрацоўваюцца і зацвярджаюцца ВНУ. Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту дазваляецца праводзіць уступныя іспыты па праграмах, якія распрацаваны і зацверджаны гэтай ВНУ.

Абітурыенты маюць права здаваць уступныя іспыты па выбары на беларускай ці на рускай мовах.

Ацэнка ведаў ажыццяўляецца па сістэме з шасці (2; 3; 3,5; 4; 4,5; 5) ці дзесяці (1, 2, 3, 4, 5, 6, 7, 8, 9, 10) балаў.

Расклад уступных іспытаў, які прадугледжвае два патокі, прыёмныя камісіі абвяшчаюць і прадстаўляюць Міністэрству адукацыі Рэспублікі Беларусь не пазней, як за тыдзень да пачатку іх правядзення.

8. Пры прыёме на тэхнічныя, сельскагаспадарчыя, ваенныя спецыяльнасці залічваюцца вынікі цэнтралізаванага тэсціравання ў адпаведнасці з прадстаўленымі сертыфікатамі. ВНУ маюць права залічваць вынікі цэнтралізаванага тэсціравання таксама на іншыя спецыяльнасці.

9. Абітурыенты, якія не з'явіліся на ўступныя іспыты без уважлівых прычын або атрымалі нездавальняючую ацэнку, а таксама якія забралі дакументы, да астатніх іспытаў не дапускаюцца.

Асобы, якія не з'явіліся на ўступныя іспыты па ўважлівай прычыне, дапускаюцца да іх здачы па рашэнні адказнага сакратара прыёмнай камісіі ў тэрміны, якія абмежаваны раскладам уступных іспытаў дадзенай ВНУ.

Нездавальняючымі лічацца ацэнкі "2" па шасцібальнай сістэме, а таксама "1" і "2" па дзесяцібальнай сістэме.

10. Залічэнне праводзіцца толькі сярод асоб, якія прадставілі ў ВНУ ва ўстаноўленыя тэрміны арыгіналы неабходных дакументаў.

На ўсе спецыяльнасці залічэнне ажыццяўляецца па асобным конкурсе сярод выпускнікоў гарадскіх, а таксама сельскіх школ і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў сельскагаспадарчага профілю (якія пастаянна пражываюць не менш двух гадоў у сельскіх населеных пунктах), прапарцыянальна пададзеным заявам ў адпаведнасці з колькасцю балаў, набраных абітурыентамі на конкурсных уступных іспытах.

У тых выпадках, калі конкурсны бал выпускнікоў сельскіх школ аднолькавы або перавышае конкурсны бал выпускнікоў гарадскіх школ, залічэнне ажыццяўляецца па агульным конкурсе.

Конкурс можа праводзіцца: па спецыяльнасцях (спецыялізацыях), групах спецыяльнасцей, факультэтах або па ВНУ.

11. Абітурыенты, якія прайшлі даінстытуцкую падрыхтоўку, паступаюць на агульных падставах.

Па рашэнні ВНУ экзаменацыйнымі камісіямі могуць прымацца сумешчаныя выпускныя-уступныя іспыты ў выпускнікоў падрыхтоўчых аддзяленняў і профільных класаў (груп). З вынікамі сумешчаных іспытаў яны маюць права ўдзельнічаць у конкурсе на мэтавыя і звышпланавыя месцы.

12. Парадак залічэння асоб, якія скончылі сярэднюю агульнаадукацыйную навучальную ўстанову з залатым (сярэбраным) медалём, сярэднюю спецыяльную ці прафесіянальна-тэхнічную навучальную ўстанову (на аснове базавай школы з атрыманнем сярэдняй адукацыі) з дыпломам з адзнакай, вызначаюць ВНУ.

13. Пераможцы міжнародных, рэспубліканскіх (дыплом I ступені) прадметных алімпіяд школьнікаў, навучэнцаў сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў, якія праведзены Міністэрствам адукацыі Рэспублікі Беларусь у бягучым навучальным годзе, а таксама асобы, узнагароджаныя нагрудным знакам лаўрэата спецыяльных фондаў Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў, студэнтаў і таленавітай моладзі, залічваюцца без уступных іспытаў пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці, што вызначаюцца ВНУ.

Пералічаныя асобы, якія паступаюць на іншыя спецыяльнасці, а таксама пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд (дыпломы II і III ступеняў) вызваляюцца ад здачы ўступных іспытаў па адпаведным прадмеце з выстаўленнем ацэнкі "5" па шасцібальнай сістэме ці "10" – па дзесяцібальнай.

Парадак залічэння пераможцаў іншых рэспубліканскіх алімпіяд, а таксама турніраў і конкурсаў, абласных алімпіяд і алімпіяд ВНУ вызначаюць прыёмныя камісіі ВНУ.

14. Па-за конкурсам пры атрыманні станоўчых ацэнак на ўступных іспытах па ўсіх формах навучання залічваюцца:

воіны-інтэрнацыяналісты;

дзеці-сіроты і дзеці, што засталіся без апекі бацькоў;

дзеці з сем'яў ваеннаслужачых, або рабочых і служачых, што займалі штатныя пасады ў воінскіх часцях, якія загінулі (памерлі) ці сталі інвалідамі ў час праходжання ваеннай службы або працы ў складзе савецкіх войск на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама дзеці з сем'яў ваеннаслужачых, якія загінулі (памерлі) у мірны час пры праходжанні ваеннай службы;

дзеці з сем'яў асоб начальніцкага і радавога складу органаў унутраных спраў, якія загінулі (памерлі) або сталі інвалідамі пры выкананні службовых абавязкаў на тэрыторыі дзяржаў, у якіх вяліся баявыя дзеянні, а таксама якія загінулі (памерлі) у мірны час пры выкананні службовых абавязкаў;

дзеці з сем'яў асоб начальніцкага і радавога складу органаў фінансавых расследаванняў Рэспублікі Беларусь, якія загінулі (памерлі) пры выкананні службовых абавязкаў;

інваліды I і II груп, а таксама дзеці-інваліды, якім у адпаведнасці з заключэннем урачэбна-кваліфікацыйных камісій не супрацьпаказана навучанне і якія могуць наведваць заняткі;

асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з артыкулам 18 закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС" (Ведамасці Вярхоўнага Савета Беларускай ССР, 1991 г., № 10, арт.111; Ведамасці Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, 1992 г., № 4, арт.73; № 33, арт.525; 1995 г., № 33, арт.429; 1996 г., № 21, арт.380; Нацыянальны рэестр прававых актаў Рэспублікі Беларусь, 2001 г., № 55, 2/774; № 67, 2/788). Абітурыенты гэтай катэгорыі, якія закончылі навучальныя ўстановы на выдатна (з выдатнымі ацэнкамі), залічваюцца па выніках гутаркі па прадметах уступных іспытаў;

беларусы замежжа па рэкамендацыях беларускіх суполак ці навучальных устаноў на спецыяльна вылучаныя органамі дзяржаўнага кіравання месцы ў межах кантрольных лічбаў прыёму ў ВНУ, якія фінансуюцца за кошт сродкаў бюджэту.

15. Пераважнае права на залічэнне па ўсіх формах навучання пры аднолькавай колькасці балаў маюць:

інваліды III групы пры адсутнасці медыцынскіх супрацьпаказанняў;

асобы, якія маюць ільготы ў адпаведнасці з артыкуламі 19, 20, 23, 24, 25 Закона Рэспублікі Беларусь "Аб сацыяльнай абароне грамадзян, пацярпеўшых ад катастрофы на Чарнобыльскай АЭС";

звольненыя ў запас ваеннаслужачыя, якія маюць ільготы, устаноўленыя заканадаўствам, і рэкамендацыі воінскіх часцей;

выпускнікі Нацыянальнага дзяржаўнага гуманітарнага ліцэя імя Якуба Коласа пры паступленні на адпаведныя спецыяльнасці;

асобы, якія маюць працоўны стаж не менш як два гады.

Іншыя крытэрыі на аднясенне абітурыентаў да гэтай катэгорыі вызначаюць прыёмныя камісіі ВНУ.

16. Залічэнне абітурыентаў на ўмовах мэтавай падрыхтоўкі спецыялістаў ажыццяўляецца па асобным конкурсе згодна дадзеных планаў мэтавага прыёму і адпаведнага палажэння.

Асобы, якія не залічаны на ўмовах мэтавага прыёму, маюць права ўдзельнічаць у конкурсе на агульных падставах.

17. ВНУ могуць ажыццяўляць прыём выпускнікоў сярэдніх спецыяльных і прафесіянальна-тэхнічных навучальных устаноў на скарочаны тэрмін навучання на ўмовах і ў аб'емах, вызначаных вучэбна-навуковымі аб'яднаннямі адпаведных навучальных устаноў згодна дзеючых нарматыўна-прававых дакументаў.

Залічэнне праводзіцца на вакантныя месцы, а пры іх адсутнасці – у межах кантрольных лічбаў прыёму.

18. На завочную і вячэрнюю формы навучання ў першую чаргу па конкурсе залічваюцца абітурыенты, якія маюць сярэднюю спецыяльную ці прафесіянальна-тэхнічную адукацыю або працуюць не менш як 6 месяцаў і паступаюць на адпаведныя ці роднасныя спецыяльнасці, што вызначаюць ВНУ.

У межах 20% ад кантрольных лічбаў прыёму, а таксама на вакантныя месцы, якія засталіся пасля залічэння вышэйпералічаных асоб, па конкурсе залічваюцца іншыя асобы.

19. У тэрмін да 15 лютага ВНУ ўсіх форм уласнасці распрацоўваюць Парадак прыёму ў ВНУ, які не павінен супярэчыць заканадаўству Рэспублікі Беларусь, Правілам прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2002 год, зацвярджаюць яго органамі дзяржаўнага кіравання па падпарадкаванні ці заснавальнікамі і прадстаўляюць у Міністэрства адукацыі Рэспублікі Беларусь. Беларускаму дзяржаўнаму універсітэту надаецца права распрацоўваць Парадак прыёму ў межах дзеючага заканадаўства.

20. ВНУ пры прыёме абавязаны забяспечыць захаванне правоў грамадзян на адукацыю, якія прадугледжаны заканадаўствам Рэспублікі Беларусь, галоснасць і адкрытасць работы прыёмных камісій, аб'ектыўнасць ацэнкі ведаў, своечасова знаёміць абітурыентаў з Парадкам прыёму ВНУ, патрабаваннямі да ўступных іспытаў, узроўнем складанасці экзаменацыйных заданняў, парадкам падачы і разгляду апеляцый, рашэннямі прыёмнай камісіі.

21. Усе іншыя пытанні па прыёме, якія не адлюстраваны ў Правілах прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы Рэспублікі Беларусь на 2002 год, вырашаюцца прыёмнымі камісіямі ВНУ згодна дзеючых нарматыўных прававых актаў.

22. Кантроль за правядзеннем прыёму ў ВНУ каардынуе Дзяржаўная камісія, якая прызначаецца ў парадку, прадугледжаным заканадаўствам.

